© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 29(137) ◈ 21 ліпеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



### Мы не адзінокія ў змаганні за Адраджэнне

У «Народнай газеце» ад 4.06.1993 г. быў апублікаваны артыкул групы выкладчыкаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта пад красамоўнай назвай «Нас трывожыць лёс Гродзенскага універсітэта». Рэагаванне адміністрацыі універсітэта было надзвычай аператыўным: ужо 11 чэрвеня адбылося пасяджэнне Вучонай рады, на якім і разглядалася вышэйназваная публікацыя. Аўтары яе на гэтай радзе былі прызнаны ў добрым бальшавіцкім стылі і хлусамі, і паклёпнікамі, і даносчыкамі, мабыць, таму, што практычна са шматлікага калектыву універсітэта толькі яны заманіфеставалі сваю занепакоенасць лёсам беларусізацыі вышэйшай адукацыі ў рэспубліцы.

З гэтай жа нагоды была склікана 24.06.1993 г. аб'яднаная канферэнцыя універсітэцкай суполкі ТБМ, Гродзенскіх гарадскога і абласнога Таварыстваў беларускай мовы, у рабоце якой прынялі ўдзел 75 актывістаў ТБМ: рабочыя і настаўнікі, інжынеры і выкладчыкі ВНУ, беспрацоўныя і народныя дэпутаты. Канферэнцыя дала дыяметральна супрацьлеглую ацэнку публікацыі ў «НГ». Пастанову гэтую я і дасылаю ад імя ўсіх удзельнікаў канферэнцыі ў «Наша слова», каб шырокая грамадскасць Беларусі ведала, што гэтыя пяць выкладчыкаў Гродзенскага універсітэта не адзінокія ў сваім змаганні за нацыянальныя і культурныя правы беларусаў.

**М. ПАТРЭБА,**
выкладчык ГрДУ.

***ПАСТАНОВА***

*Аб'яднанай канферэнцыі універсітэцкай суполкі ТБМ, Гродзенскага гарадскога і абласнога Таварыстваў беларускай мовы імя Ф. Скарыны «Праблемы нацыянальнага адраджэння і адукацыя», якая адбылася 24 чэрвеня 1993 года ў горадзе Гродна.*

*Прысутнічала 75 сяброў ТБМ.*

*1. Удзельнікі канферэнцыі лічаць апублікаваны ў «Народнай газеце» за 4.06.1993 г. артыкул «Нас трывожыць лёс Гродзенскага універсітэта» вельмі надзённым, накіраваным на адраджэнне нашай духоўнасці, беларускай нацыянальнай культуры і мовы, на стварэнне нацыянальнага асяродку ў заходнім рэгіёне Беларусі, і пастанаўляюць:*

*а) кваліфікаваць дзеянні рэктара і паслухмянай яму Вучонай рады універсітэта як спробу расправы з аўтарамі артыкула — нацыянальна свядомымі навукоўцамі, якія не пабаяліся вынесці на рэспубліку абмеркаванне негатыўных бакоў дзейнасці Гродзенскага універсітэта;*

*б) актывізаваць дзейнасць гарадскога і абласнога ТБМ па адраджэнні беларускай культуры і мовы ва ўсіх ВНУ, вучылішчах, ліцэях, гімназіях і школах горада Гродна і вобласці.*

*2. Удзельнікі канферэнцыі даводзяць гэтае рашэнне да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і спадзяюцца на адпаведныя захады, накіраваныя на актывізацыю працэсаў беларусізацыі ў Гродзенскім рэгіёне.*

*Прынята аднагалосна.*

---

*Жыццё Таварыства*

## Каб пашыраліся суполкі ТБМ

***28 чэрвеня ў канферэнц-зале менскага Дома літаратара адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў арганізацый—заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, прысвечаная чацвёртым угодкам устаноўчага з'езда ТБМ.***

Дарэчы, пра чатырохгоддзе нашага Таварыства жыхарам Рэспублікі Беларусь у той жа дзень нагадала папулярная ранішняя інфармацыйная праграма «Радыёфакт», на хвалях якой прагучала кароткая гутарка са старшынёй ТБМ Нілам Гілевічам. Ніл Сымонавіч, у прыватнасці, адзначыў, што «ідэя стварэння Таварыства беларускай мовы была падказана самім жыццём, бо родная, матчына мова не належыць пісьменнікам, артыстам, навукоўцам, яна належыць усяму народу». Наш старшыня падкрэсліў, што ТБМ — арганізацыя культурна-асветніцкая, галоўная задача яе — выхоўваць любоў да роднай мовы, без якой Беларусь як вольную самастойную дзяржаву ўвогуле нельга ўявіць. На пытанне карэспандэнта: «Што ўжо зроблена Таварыствам па адраджэнні роднай мовы?» — Н. Гілевіч адказаў: «Клопату ў нас многа. ТБМ імя Ф. Скарыны пакуль трымаецца пераважна на спонсарстве. Тым не менш, мы выдаём разнастайную літаратуру, маем сваю газету — «Наша слова», ствараем моўныя курсы... Адчуваючы свой абавязак і адказнасць, хочам, каб паўсюдна на Беларусі былі суполкі ТБМ».

Але ж вернемся ў Дом літаратара. Адкрываючы рабочую сустрэчу, намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Я. Цумараў засяродзіў увагу прысутных — а сюды былі запрошаны і журналісты рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі — на канструктыўных узаемаадносінах Таварыства з арганізацыямі-заснавальнікамі: «Проста не пералічыць, колькі добрага для нас зроблена трыма міністэрствамі (інфармацыі, культуры, адукацыі), Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Таварыствам «Радзіма», Таварыствам дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі, акадэмічнымі інстытутамі мовазнаўства і літаратуры, Беларускім фондам культуры». Ён прапанаваў паслухаць прадстаўнікоў арганізацый—заснавальнікаў ТБМ.

Слова бярэ старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт В. Зуёнак, які выказаў заклапочанасць тым, што апошнім часам тыражы беларускіх выданняў падаюць, што «прыніжана грамадскае значэнне мастацкага слова пісьменнікаў». Цяпер стала звычайным,— абураўся паэт, — што кніжка добрых вершаў выпускаецца ў свет тыражом усяго ў 500 экземпляраў. Ці дойдзе ў такім выпадку гэта паэтычная споведзь да людзей? Ад імя пісьменніцкай арганізацыі Беларусі В. Зуёнак заклікаў Міністэрства інфармацыі рэспублікі (а міністр інфармацыі спадар А. Бутэвіч сядзеў з ім побач) звяртаць больш увагі на роднае слова. «Калі нацыя,— працягваў паэт,— дбае аб сваёй будучы-

*Заканчэнне на с. 3.*

---

**На адной з прэс - канферэнцый Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч прывёў даныя, якія характарызуюць рэальныя эканамічныя магчымасці некаторых краін СНД. Так, Расія на ўласных сыравінных рэсурсах здольна вырабляць 65 працэнтаў прадукцыі, Казахстан — 27, Украіна — 15, а Беларусь — толькі 4.**

---

У Барысаве ідзе падрыхтоўка да правядзення мясцовага рэферэндуму, на якім мяркуецца паставіць пытанне аб датэрміновым роспуску Барысаўскага Савета народных дэпутатаў і правядзенні прамых выбараў старшыні гарсавета.

---

Кіраўнікі ўрада Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі заяву аб неадкладных мерах па паглыбленні эканамічнай інтэграцыі.

---

*Чыталі?*

## Ніл ГІЛЕВІЧ: У гісторыі Беларусі наступіў лёсавызначальны момант

***Пэўныя прадпрымальніцкія структуры, і сярод іх тыя, што добра пажывіліся, выдаючы і прадаючы на Беларусі расійскамоўную прыгодніцкую літаратуру, не задавальняючыся сваімі перавагамі на беларускім рынку, пад выглядам інтэрнацыяналізму спрабуюць увесці заканадаўства, якое канчаткова б разбурыла нацыянальную дзяржаву. Народны паэт і дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня рэспубліканскага ТБМ Ніл Гілевіч выступіў у «Народнай газеце» (29.06.93) з перасцярогай супраць такіх дэструкцыйных дзеяў. Дарэчы, калегі з «Народнай газеты» пазначылі гэтую публікацыю як «крык душы». Але час бездапаможнага лямангу для беларусаў мінуў. Гэта не «крык», а ўраўнаважанае і глыбока абгрунтаванае словапапярэджанне вядомага грамадскага дзеяча, паэта і вучонага-патрыёта тым, хто наўмысна ці па легкадумнасці не толькі спрабуе шкодзіць нацыянальнаму руху абуджанага народа, але і падсякае сук, на якім няблага ўгняздзіўся.***

***У сваім артыкуле Ніл Гілевіч адзначае:***

Выходзіць: згадзіцеся на нацыянальнае самазабойства — і тады ў Рэспубліку Беларусь пацякуць з-за граніцы капіталы. Выбачайце, а — для каго пацякуць? І як будзе тады ўжо называцца наша дзяржава?..

Дайшло да таго, што найбольш апантаныя «клапатліўцы» пра дэмакратычную і прававую дзяржаву Беларусь падрыхтавалі і апублікавалі праект яшчэ аднаго Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Гэта сведчыць, што намер пэўных грамадскіх сіл дэстабілізаваць нацыянальна-палітычную сітуацыю ў Беларусі куды больш сур'ёзны, чым можна было думаць, мяркуючы па іх ранейшых разрозненых выступленнях у друку. Глыбока засмучае гэта не ўзважаная на шалях грамадзянскай адказнасці ініцыятыва з патрабаваннем вынесці пытанне аб другой дзяржаўнай мове ў Беларусі на ўсенародны рэферэндум.

Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь ёсць, прыняты 26 студзеня 1990 года (яшчэ на сесіі Вярхоўнага Савета папярэдняга склікання), і, як усякі іншы закон, яго трэба выконваць — і толькі. Дарэчы, калі ён быў абвешчаны — пратэстаў супраць яго не паступала, былі адно заўвагі, што занадта расцягнутыя тэрміны выка-

*Заканчэнне на с. 2.*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## ДЫЯЛОГ: ЧЫТАЧЫ — РЭДАКЦЫЯ

**З ГОМЕЛЯ: Было б вельмі добра, каб аркушы ўкладаліся адзін у другі. Відаць, гэта не дазваляюць тэхнічныя ўмовы, але імкнуцца трэба.**

**Другое. На першай старонцы не варта ўказваць назвы артыкулаў, якія друкуюцца на ўнутраных палосах. Іншая справа, калі газета пачне выходзіць на большай колькасці старонак. Відаць, гэта робіцца для тых, хто захоча набыць «Наша слова» ў кіёсках. А так, упэўнены, што чытачы, як гэта, дарэчы, раблю я, чытаюць «Наша слова» з пачатку да канца.**

**Дарэмна даяце спіс тэлеперадач. Яны ёсць і ў іншых газетах, а на гэтым месцы лепей друкаваць урыўкі з добрых літаратурных твораў, каб у газеце было больш карыснага матэрыялу.**

**Максім ПУРАНОК.**

***АД РЭДАКЦЫІ.***

***Шчыра дзякуем за парады. Сапраўды, пакуль па тэхнічных умовах не можам укладаць аркушы адзін у другі, але спадзяёмся, што такая магчымасць у будучым усё ж з'явіцца.***

***Што да вынасак на першай старонцы, то стараемся іх рабіць не многа, але ўсё ж хочацца, каб на некаторыя матэрыялы чытачы звярнулі асаблівую ўвагу. Безумоўна, не выключаем, што калі-небудзь пачнём выходзіць не на 8 палосах, а па меншай меры на 12.***

***Пра спіс тэлеперадач хацелася б пачуць меркаванні і іншых чытачоў. Увогуле пра наш тэле- (і магчыма — радыё-) аддзел будзем яшчэ думаць і чакаем прапаноў.***

***З КАНАДЫ (ТАРОНТА):*** **Хачу, перш-наперш, выказаць рэдакцыі і ўсім сябрам ТБМ сардэчную падзяку за святую працу па адраджэнні нашай мовы і беларускай годнасці. З'яўляюся пастаянным чытачом «Нашага слова». Газету атрымліваю (пазычаю) у Кастуся Акулы, які таксама перадае свае прывітанні.**

**Прабачце, але мяркую, што ў апошні час газета крыху страціла сваю задзірыстасць, стала больш канфармічнай. А гэтага ні ў якім выпадку нельга дапускаць. Не можа быць ніякіх кампрамісаў у змаганні за беларускую мову.**

**З глыбокай пашанай —<br>Раман КАРДОНСКІ.**

***АД РЭДАКЦЫІ.***

***Вельмі рады мець такіх уважлівых і добразычлівых чытачоў у Канадзе. Што да задзірыстасці, то мы не прыхільнікі толькі аднаго — лаянкі і чапляння за дробязі, але ніколі не паступімся годнасцю свядомага беларуса і заўсёды гатовыя абараняць нацыянальныя правы свайго народа і стаяць за гэта цвёрда і рашуча. Прыстасавальніцтва — не ў нашых правілах, тым не менш, крытычныя заўвагі ў свой бок вывучым вельмі ўважліва.***




## «Северо-западный край»...

**У Віцебскім мастацкім музеі экспануецца выстава «Русское искусство XIX века». Чамусьці туды трапілі і творы беларускіх майстроў, у прыватнасці Івана Хруцкага, які нарадзіўся, вучыўся, доўгі час жыў і працаваў на Беларусі.**

**Віцебская вышыванка бісерам тут названа «мясцовым вырабам». Напэўна, арганізатары выставы зноў хочуць пераканаць беларусаў, што тыя жывуць не ў суверэннай дзяржаве, а ў «Северо-западном крае».**

***Чыталі?***

# Ніл ГІЛЕВІЧ: У гісторыі Беларусі наступіў лёсавызначальны момант

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

нання яго асобных артыкулаў. Значыць, быў успрыняты як своечасовы, патрэбны і, галоўнае, прынцыпова справядлівы дзяржаўны дакумент. Трохі-патрохі ён пракладае дарогу справе беларускага нацыянальнага адраджэння, садзейнічае станаўленню незалежнай беларускай дзяржавы. Паступова, хаця і з цяжкасцямі, ажыццяўляецца Дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь.

Шкада, што некаторыя кіраўнікі палітычных рухаў на Беларусі, замест таго каб паказваць прыклад павагі да законаў сваёй дзяржавы, праяўляюць ініцыятыву адваротнага накірунку, ініцыятыву, не ўзгодненую з інтарэсамі беларускага народа і Рэспублікі Беларусь і, вядома ж, бесперспектыўную.

У гісторыі Беларусі наступіў лёсавызначальны момант. Хочацца думаць, што гэта разумеюць усе. Ад кожнага, хто прэтэндуе сёння на дзейнасць у якасці палітыка, гэта патрабуе глыбей асэнсоўваць палітычныя і духоўныя працэсы ў жыцці грамадства, больш цвяроза глядзець на рэальны стан рэчаў, бачыць і падтрымліваць тыя здаровыя тэндэнцыі росту, за якімі будучыня.

Імкненне стрымаць працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі — справа не толькі марная, але і шкодная. Усякая падобная дзейнасць спрыяе палітычнай дэстабілізацыі ў грамадстве, у той час як мы ўсе павінны быць зацікаўлены ў адваротным. Навошта наўмысна напальваць палітычную атмасферу ў грамадстве, калі столькі «гарачых» іншых праблем — эканамічных, сацыяльных, экалагічных, якія патрабуюць зноў жа нашай агульнай усенароднай увагі? Цяжка зразумець, а тым больш знайсці апраўданне таму, з якой зацятасцю і з якім напорам мусіруецца ў друку пытанне аб дзяржаўным статусе рускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Як быццам той Закон аб мовах, які ёсць, ну проста не дае людзям ні жыць, ні дыхаць, ні займацца працоўнай грамадска карыснай дзейнасцю.

Зразумець гэты напор можна толькі ў адным выпадку — калі, усведамляючы надзвычайную, вырашальную ролю нацыянальнай мовы ў працэсе станаўлення дзяржаўнасці, грамадзяне-палітыкі ставяць сабе за мэту пазбавіць яе гэтай ролі і гэтага значэння — з тым, каб паралізаваць сам працэс будаўніцтва незалежнай Беларускай дзяржавы. Але ж гэта значыць — хацець немагчымага! Народ прачнуўся, народ разбуджаны да актыўнай нацыянальна-гістарычнай дзейнасці, і, гаворачы словамі Янкі Купалы, «мы ўскрэслі, мы больш не заснём».

Перабіраю ў памяці імёны некаторых актывістаў супраціўлення беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. У сяго-таго — нават два дыпломы аб вышэйшай адукацыі. Два дыпломы, а не валодае не толькі мовай свайго народа, сваёй зямлі, але — што значна горш — і разуменнем самой праблемы. Нічога, аднак, дзіўнага: так вучылі з першага класа школы. Усяму, чаму хочаш, вучылі — толькі не правільнаму, чалавечаму і, падкрэсліваю, дзяржаўнаму разуменню, што такое народ, яго гісторыя, яго культура, яго мова. І як да ўсяго гэтага грамадзянін дзяржавы павінен ставіцца. І што ад узроўню нацыянальнай гістарычнай і дзяржаўнай самасвядомасці грамадзян залежыць у вялікай меры сацыяльна-эканамічны стан краіны і наш агульны дабрабыт.

У нас няма аб'ектыўных падстаў для абвастрэння моўнага пытання і стварэння нездаровай атмасферы наўкола яго, для нагнятання страхаў-жахаў, а тым больш — для грамадскага бунту на гэтай глебе. Па-першае, сама блізкасць моў — беларускай і рускай — начыста здымае на бытавым узроўні перашкоды ва ўзаемаадносінах (практычна перакладчык не патрэбен). Па-другое, законы нашы (аб мовах, аб адукацыі, аб нацыянальных меншасцях) вельмі памяркоўныя, абачлівыя, узважаныя, наракаць на іх — проста грэх. Хіба што паступіўшыся сумленнем, выбачайце... Менавіта таму, што аб'ектыўных прычын для «моўнага бунту» няма, у нас, у Беларусі, і спакойна, і можна спакойна ісці далей — займацца неадкладнымі сацыяльна-эканамічнымі праблемамі. Але ўражанне, на вялікі жаль, такое, што сяму-таму з грамадзян гэта спакойная хада не падабаецца, гэта адносная палітычная стабільнасць не па нутру. Хочацца, відаць, разладу, нацыянальнай нязгоды, канфрантацыі, а можа, і чаго яшчэ горшага, яшчэ больш небяспечнага і страшнага. Хочацца справакаваць нешта «востранькае». Як мы ўсе добра разумеем, дасягнуць гэтага не так цяжка. Бо не трэба ж думаць, што многія сотні тысяч беларусаў (перш за ўсё — маладых), акрыленых ідэяй нацыянальнага адраджэння Беларусі, моцна запаленых гэтай ідэяй, глыбока ахопленых жыватворным грамадска-палітычным настроем,— што яны зміраццa, калі, крый Бог, несправядлівасць пераможа, што яны моўчкі праглынуць крыўду.

Калі што і шкодна ў нашым жыцці палітызаваць — дык гэта моўную сферу. Сферу, у якой усё само сабой, па волі Усявышняга, павінна быць зразумелым і пагодненым. Ага! — нашы палітычныя апаненты выступаюць у абарону Закона аб мовах — значыць, мы будзем выступаць супраць. Так непрыязнасць да пэўнай ідэалогіі, да носьбітаў гэтай ідэалогіі пераносіцца на мову, а яна ж — не ад нейкага класа, клана, партыі, руху, яна — ад самога Бога, яна — ад гэтай зямлі, яна — сімвал гэтай зямлі і таму не павінна быць прадметам палітычнай барацьбы. Рабіць яе такім прадметам — безадказна і амаральна. Мова не павінна падзяляць людзей адной зямлі, адной дзяржавы. Канфрантацыя на грунце мовы?.. Што можа быць больш недарэчным? І больш сумным? Можна зразумець разыходжанне і процістаянне па адносінах да сацыяльна-эканамічнай сістэмы, да грамадска-палітычнага ладу, да праблемы ўласнасці, да вайны і міру, нарэшце. Але — па адносінах да мовы?..

Нядаўна адзін ваяўнічы ідэолаг эпохі дзікага рынку разышоўся да таго, што абазваў Таварыства беларускай мовы «духоўнай паліцыяй». Гэта — пра тысячы сумленных, простых, шчырых людзей, у якіх, апрача любові да мовы сваёй роднай зямлі, ніякай сілы-ўлады няма, як няма і нажытых на спекуляцыі мільёнаў, і высокіх пасад, і шыкоўнай маёмасці. Гэта — пра настаўнікаў, пра студэнтаў і выкладчыкаў навучальных устаноў (ТБМ на 85—90 працэнтаў складаецца з іх). Гэта яны — «духоўная паліцыя». Гэта яны распараджаюцца ў нас тэлебачаннем, радыё, кнігавыдавецтвамі, паліграфічнымі базамі, канцэртнымі арганізацыямі, шматтыражнымі газетамі і часопісамі, гэта яны кіруюць інстытутамі, навуковымі лабараторыямі (у тым ліку — сацыялагічнымі), усемагчымымі інтэлектуальнымі цэнтрамі і фірмамі, уплывовымі канфесіямі, самымі масавымі палітычнымі партыямі...

І паварочваецца ж язык, аднак жа!

«Насилие в духовной сфере не приведет к добру», — кідае ў эфір рытарычную сентэнцыю вялікі змагар за дабро, за сумленнасць, за сціпласць. Правільна! Сучасны стан беларускай мовы — найлепшы доказ, да чаго прыводзіць насілле і гвалт у духоўнай сферы. Вы, панове, карыстаецеся вынікамі дзікага таталітарысцкага гвалту ў духоўнай сферы беларускага народа — гвалту над яго мовай, яго культурай, яго гістарычнай памяццю. Ледзь паспрабавала ў 20-я гады беларуская мова заняць належнае месца, як тут жа «неистовые ревнители» абрынуліся на яе і яе абаронцаў — збілі, счарнілі, збэсцілі маральна, здрапежылі, здратавалі, знішчылі фізічна. Чаму вы, панове — змагары за «дэмакратыю», не гаворыце пра тое, што было зроблена з беларускай мовай, беларускай школай, беларускім друкам і г.д. пад шырмай інтэрнацыяналізму? Ці, можа, вам невядома ўсё гэта? Ну, як жа! Прэтэндуеце на забеспячэнне аб'ектыўнай інфармацыяй па ўсіх пытаннях грамадскага жыцця, а тут — інфармацыяй не валодаеце? А можа, усё-такі валодаеце? Дык тады і скажыце ўсю праўду наконт беларускай мовы і яе лёсу. І аб тым, што яе можа ўратаваць, як не даць ёй канчаткова сысці ў небыццё.

Ах, гэта апошняе ў вашы планы не ўваходзіць? У вас мэты і задачы зусім іншыя, процілеглыя? Мы гэта ведаем. Але скажыце пра гэта шчыра ўсяму народу — у вашых жа руках магутныя сродкі масавай інфармацыі. Скажыце тое, што думаеце сам-насам, не хітруючы. Так і скажыце: мы не хочам, каб тут, на беларускай зямлі, гучала беларуская мова, каб яна панавала тут гэтак жа, як польская мова ў Польшчы, або як сербская ў Сербіі, ці як іўрыт у Ізраілі. Мы хочам, каб яна трохі-патрохі сышла на нішто і знікла. І дабаўце: тут мы цалкам згодны з усімі — і старымі, і новымі — партыямі камуністычнымі, тут мы з імі аднадумцы і адзінаверцы. У дробязях, у пытаннях прыватных і часовых мы з імі разыходзімся, а што датычыцца мовы — галоўнага пытання жыцця і смерці нацыі — тут мы з імі заадно! Дабіць і дадушыць — каб і паміну не было!

Дык не выйдзе, панове! І дарэмна, абсалютна дарэмна стараецеся! Давесці нашу краіну да новага (на ўзор 1929—1937 гг.) крывавага пагрому Беларускай ідэі — нікому не ўдасца. Не тыя часы, панове!..

Вось чаму ўсіх тых, хто яшчэ не прыслухаўся да голасу розуму, я заклікаю прыслухацца і спыніць шкодную і безнадзейную барацьбу супраць беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь, заклікаю ахвяраваць сілы сваёй душы і сэрца на падтрымку нашай дзяржаўнай мовы, на яе пашырэнне ў грамадскім ужытку і тым самым на развіццё і росквіт беларускай нацыянальнай культуры, а значыць,— і на ўмацаванне дружбы паміж людзьмі ўсіх этнічных супольнасцей.

Колькасць нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі расце і будзе расці яшчэ больш напорна, больш шпаркімі тэмпамі. І, вядома ж, яна, інтэлігенцыя, будзе «задаваць тон» — у моц Богам дадзеных ёй магчымасцей, будзе вызначаць тэндэнцыю духоўнага развіцця народа. Хто з палітыкаў гэтага не разумее і не прызнае,— наўрад ці ён валодае цвярозым поглядам на рэальны стан рэчаў і дастатковым пачуццём адказнасці за далейшае развіццё падзей. Бо калі гэтай рэальнасці не прызнаць — тады застаецца толькі той шлях, які ўжо аднойчы быў пад нашым небам пройдзены: сталінска-яжоўска-берыеўскі шлях татальнага фізічнага вынішчэння ўсёй нацыянальнай інтэлігенцыі. Хіба што нехта ўжо гатовы да такога паўтарэння гісторыі? Хіба што!.. Іначай усе намаганні спыніць рост нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця нацыянальнай годнасці абсалютна марныя. Як трава прабіваецца праз асфальт, так і жыватворны дух народа прабіваецца праз тоўшчу абледзяненя, назва якога — нянавісць да самой ідэі свабоднай незалежнай Беларусі, нецярпімасць да нашай дзяржаўнай суверэннасці... І колькі яго ні ўціскай, ні дратуй, ні душы — ён зноў і зноў праб'ецца і вырвецца на волю, і ўсё пачнецца спачатку, і зноў паявіцца ў новым абліччы Каліноўскі і падасць свой грымотны голас новы, іншы Купала,— і зноў народ пойдзе за імі, а не за тымі, хто хоча дыктаваць яму сваю волю...

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# КАБ ПАШЫРАЛІСЯ СУПОЛКІ ТБМ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

ні,— то дзяржава перш за ўсё павінна забяспечыць бібліятэкі нацыянальнай літаратурай. У нас жа 10 тысяч масавых бібліятэк і бібліятэка літаральна ў кожнай школе. Апошнім належыць асаблівая роля, бо калі мы не паставім на беларускі шлях школу, то не дасягнем нічога. І таму ТБМ неабходна накіраваць свой позірк на школы».

Намеснік старшыні Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі Н. Нерад павіншавала заснавальнікаў ТБМ імя Ф. Скарыны. «Прайшло зусім мала, усяго чатыры гады,— сказала яна,— а плён дзейнасці ТБМ ужо відавочны. Нават у моцна зрусіфікаванай беларускай сталіцы значна пашырылася ўжыванне роднага слова: яно гучыць у менскім метро, на чыгунцы, ва ўстановах, на прадпрыемствах. Значыць, прыкметныя зрухі да лепшага ёсць!» Затым прамоўца прапанавала кіраўніцтву ТБМ, актыву Таварыства звярнуць асаблівую ўвагу на перакладчыцкі факультэт Менскага інстытута замежных моў дзеля таго, каб выпускнікі ў хуткім часе змаглі перакладаць з замежных моў адразу на беларускую, без традыцыйнага і пакуль пашыранага пасрэдніцтва рускай мовы. Гэта павінна павысіць міжнародны прэстыж і аўтарытэт ,беларускага слова, а значыць, і Рэспублікі Беларусь. Родную мову ўжо зараз неабходна зрабіць мовай міжнародных зносін. «Хоць цяпер,— адзначыла яна,— міжнародныя акты, якія заключае Беларусь, яшчэ складаюцца на трох мовах, але галоўны — першы экземпляр любога пагаднення ўжо напісаны па-беларуску. Час працуе на нас!»

Я. Цумараў звярнуўся да спадарыні Н. Нерад з просьбай ад ТБМ імя Ф. Скарыны дапамагчы стварыць бібліятэчкі беларускай даведачнай літаратуры аб рэспубліцы ў пастаянных прадстаўніцтвах Беларусі за мяжой. Прапанова была сустрэта прыхільна.

Выступленне міністра інфармацыі А. Бутэвіча было вострым і эмацыянальным. «Здаецца,— сказаў ён,— што зарана мы заспакоіліся... Зараз ТБМ у пэўнай ступені згубіла стрыжнявы накірунак сваёй дзейнасці. Паглядзіце, колькі вакол размоў аб дзяржаўным двухмоўі! Не можа не турбаваць таксама, што колькасць беларускіх газет на месцах не павялічваецца. Нават наадварот, беларускія раёнкі пачынаюць друкавацца на дзвюх мовах, а то і зусім пераходзяць на рускую. Ці, напрыклад, такая праблема. Колькі цяпер новых назваў, колькі рэкламы! Але ж на якой мове ўсё гэта робіцца?! ТБМ трэба неадкладна ўмяшацца ў гэты, пакуль яшчэ бескантрольны і стыхійны, працэс». Далей міністр адзначыў, што не меншую заклапочанасць выклікаюць і розныя беларускія слоўнікі, якіх зараз выдаецца шмат. Адны з іх напісаны паводле нормаў граматыкі Б. Тарашкевіча, іншыя прытрымліваюцца сучаснага беларускага правапісу. Практыка падобнага выпуску слоўнікаў плёну не прынясе. Тут сваё важкае слова проста абавязана сказаць ТБМ.

Спадар А. Бутэвіч закрануў таксама набалелыя пытанні выдання беларускай літаратуры. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што суседняя з намі Расія «па колькасці кніжных выданняў цяпер знаходзіцца на ўзроўні... 1913 года. Беларусь тут выглядае куды лепш, бо мы пакуль захавалі дзяржаўныя структуры кнігавыдавецтва». Што да працэнтаў беларускамоўнай літаратуры, то, як засведчыў міністр, гэты паказчык за тры апошнія гады не зменшыўся. Аналагічнае назіраецца і па тыражах. На заканчэнне А. Бутэвіч пазнаёміў аўдыторыю з новымі беларускімі кніжкамі, якія толькі-толькі выйшлі з друкарняў. Гэта — падручнік па гісторыі Беларусі для пятых—шостых класаў сярэдніх агульнаадукацыйных школ, даступны дапаможнік па гісторыі Беларусі ў пытаннях і адказах, першая частка навуковага зборніка «Культура беларускага замежжа», творы беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

Я. Цумараў прапанаваў міністру з верасня бягучага года на Беларускім тэлебачанні рэгулярна праводзіць «круглыя сталы» з шырокім удзелам грамадскасці, дзе абмяркоўваць ход увядзення ў жыццё Закона аб мовах, бо менавіта ў сёлетнім верасні заканчваецца тэрмін ажыццяўлення некаторых важных артыкулаў згаданага Закона. Прапанова прымаецца.

Выступленне Я. Стапановіча (АН Рэспублікі Беларусь) было прысвечана пытанням дзейнасці некалькіх тэрміналагічных камісій. Прамоўца, у прыватнасці, адзначыў, што акадэмічная тэрміналагічная камісія (цяперашні кіраўнік — сп. А. Падлужны) пасля смерці вядомага моваазнаўцы акадэміка М. Бірылы фактычна перастала працаваць. А вось дзейнасць тэрміналагічнай камісіі ТБМ, якая выпусціла і падрыхтавала да друку некалькі новых слоўнікаў, заслугоўвае ўхвалы. Праўда, дагэтуль канчаткова не вырашана: якую ж беларускую граматыку — Б. Тарашкевіча ці сучасную (так званую наркамаўку) — браць за аснову для стварэння галіновых тэрміналагічных слоўнікаў. Спадар Я. Стапановіч лічыць, што тэрміналагічная камісія ТБМ з годнасцю здолее працягваць сваю работу, але ёй неабходна надаць больш высокі статус, яна павінна атрымаць правы выдаваць, візаваць і рэдагаваць беларускія слоўнікі па розных галінах навукі, тэхнікі, гаспадаркі, культуры, асветы. Аўдыторыя падтрымала прамоўцу.

Я. Цумараў выказаўся наконт таго, што наспела пара аб'яднаць работу тэрміналагічнай камісіі ТБМ імя Ф. Скарыны з адпаведнай камісіяй БДУ, паколькі АН Беларусі ўсю гэту справу фактычна завaліла.

З цікавасцю слухала зала выступленне В. Маслоўскага (Упраўленне па развіцці сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў). «Сумнавата ад таго,— пачаў ён,— што ўвогуле ёсць ТБМ — арганізацыя, мэтай якой з'яўляецца абарона мовы, якая ў гэтай краіне мае статус дзяржаўнай!» Далей было адзначана, што за чатыры гады ТБМ імя Ф. Скарыны зрабіла вельмі многа будзённай, не заўжды бачнай адразу, але ж надта неабходнай работы. У той жа час нельга заплюшчваць вочы на тое, што шэраг беларускіх міністэрстваў, як і ўчора, нічога не робіць па ажыццяўленні Закона аб мовах. Па прыкладах хадзіць не трэба. Усе разумеюць, што ў нашай краіне павінна паслядоўна і мэтанакіравана праводзіцца адзіная моўная палітыка. Спадар В. Маслоўскі лічыць, што зараз настаў час, каб ТБМ імя Ф. Скарыны ўзяла пад сваё крыло дзяржава. Прэстыж, аўтарытэт і ўзровень арганізацыі ў выніку значна павысяцца. Вось тады ТБМ зможа стаць сапраўдным праваздейным кантралёрам па ажыццяўленні ў рэспубліцы адзінай моўнай палітыкі. Сёння Саўмін ужо робіць пэўныя захады ў гэтым накірунку.

Доктар гістарычных навук Л. Лыч закрануў праблему ролі беларускай акадэмічнай навукі ў працэсах нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны. «Мне здаецца,— сказаў ён,— што на сённяшні дзень Акадэмія — штаб беларускай навукі — самая адсталая ў беларусізацыі. На жаль, нашы вучоныя не сталі тэарэтыкамі і распрацоўшчыкамі палітыкі беларусізацыі грамадства. Яны гэтай праблемай цяпер увогуле не займаюцца. А, напрыклад, у 20-я гады назіралася зусім іншае. Якраз тады менавіта Інбелкульт стаў генератарам ідэй беларусізацыі». Спадар Л. Лыч падкрэсліў і тое, што асобных нашых вядомых вучоных трэба нават пераконваць у неабходнасці рашучага павароту навукі да беларускасці. Таму адна з бліжэйшых задач ТБМ — арганізацыя і правядзенне рэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Мова навукі». Кіраўніцтву ТБМ трэба перш-наперш паставіць перад урадам пытанне, каб літаральна ўсе дысертацыі на Беларусі пісаліся толькі на нашай дзяржаўнай мове.

Крытычна і палітычна завостраны прагучала прамова старшыні Менскай арганізацыі Таварыства імя Ф. Скарыны прафесара М. Савіцкага, які сказаў: «Сталічная рада ТБМ лічыць, што эфект і аддача ад нашай працы пакуль нязначныя». На думку прафесара, гэта ў першую чаргу тлумачыцца тым, што энтузіясты роднага слова — людзі з высокім інтэлектам — паасобку спрабуюць зрабіць тое, што павінна ў шырокім маштабе штодзённа і няўхільна ажыццяўляць дзяржава. «Моўная палітыка,— працягваў спадар М. Савіцкі,— высокая палітыка. У нас яна дагэтуль не адпавядае нацыянальным інтарэсам. Так, напрыклад, летась польская газета «Глос над Немнам» (Гродна) атрымала ад беларускага ўрада 1,5 мільёна рублёў датацый. Дарэчы, гэта амаль столькі, колькі было выдаткавана і для выдання «Нашага слова». А згаданая польская газета займае адкрыта антыбеларускую пазіцыю. Прамоўца горача ўхваліў ідэю ўзяць ТБМ імя Ф. Скарыны пад непасрэдную апеку дзяржавы, на заканчэнне выказаўся за тое, каб рэктарамі ўсіх ВНУ рэспублікі былі толькі людзі, у якіх душа баліць за беларускую справу, за наша нацыянальнае Адраджэнне.

Старшыня Салігорскай рады ТБМ М. Мацюкевіч паведаміла аўдыторыі, што ў Салігорску ўжо працуе кіёск Таварыства, адкрыццю якога садзейнічалі гарадскія ўлады, шыльды з рускамоўнымі назвамі вуліц паступова замяняюцца на беларускія. Але ў актывістаў мясцовай арганізацыі ТБМ цяжкасцей па-ранейшаму хапае. Напрыклад, у сістэме народнай адукацыі не праводзіцца атэстацыя кіруючых кадраў на валоданне імі роднай мовай, кантроль за выкананнем Закона аб мовах на месцах часам адсутнічае.

Выступілі яшчэ некалькі прамоўцаў.

Я. Цумараў, падсумоўваючы зацікаўленую гаворку, падвёў вынікі рабочай нарады і выказаў падзяку яе ўдзельнікам.

**Мар'ян ВІЖ.**





У 440-ю гадавіну беларускай Рэфармацыі аднавіліся братнія сувязі хрысціян рэфармацкай царквы сучаснай Беларусі і Летувы. У чэрвені месяцы на нацыянальным сінодзе ў Біржах прысутнічала афіцыйная дэлегацыя Беларускага Эвангелічнага Рэфармацкага Збору. Падчас знаходжання ў Літве беларусы сустрэлі сапраўдных шчырых сяброў, клапатлівых і гасцінных. Наведалі аднаўлены біржанскі палац Радзівіла, дзе цяпер размешчаны цікавы краязнаўчы музей. Дарэчы звярнулі ўвагу на тое, што ўзоры народнага арнаменту на біржанскіх посцілках такія ж самыя, як на Меншчыне, а гэта сур'ёзнае сведчанне нашай векавечнай крэўнасці. Адбыліся дзелавыя гутаркі з кіраўніцтвам Сусветнага альянсу рэфармацкіх цэркваў, скіраваныя на арганізацыю дапамогі беларускім зборам.

НА ЗДЫМКАХ: 1. Рэфармацкі збор у Біржах, пабудаваны ў 1876 г. 2. Беларуская дэлегацыя разам з прадстаўнікамі летувіскай і сусветнай рэфармацкай царквы.

**С. ЛЮДАМАНТ.**




* *

Створана суполка па вывучэнні беларускай мовы і гісторыі Беларусі пры вайсковай часці Менскага гарнізона. Тут паспяхова працуюць курсы па вывучэнні роднай мовы. Нядаўна першыя групы вайскоўцаў, якія добра авалодалі мовай свайго народа, здалі залікі. Акрамя гатага, тут створаны музей гістарычнай славы воінаў-беларусаў. Ва ўсіх гэтых пачынаннях вялікая заслуга маёра Грыцэнкі.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*440 год Рэфармацыі ў Беларусі (1553—1993)*

*Лявон ЛІПЕНЬ*

# Арол наш чорны, княжа Радзівіл...



Як ні жорстка абыходзілася з намі гісторыя і «гісторыкі», ды ўсё ж з народнай памяці ніколі не ўдасца сцерці вялікія імёны нашых слаўных бацькоў, рыцараў і асветнікаў, руплівых гаспадароў, справядлівых правадаўцаў і ўдумлівых дыпламатаў. Князь Мікалай Радзівіл Руды — адзін з іх. Ён пераняў ад свайго бацькі Юрыя сапраўдны ваенны геній, што і засведчыў не раз у цяжкіх выпрабаваннях XVI стагоддзя. Хоць і называем мы гэты час «залатым векам», ды, дзякуючы нашым неміласэрным суседзям, хапала тады ўсялякага, а найперш мусілі нашы продкі бясконца адбівацца ад нахабных заваёўнікаў з усходу. Разам з бацькам Радзівілам, званым «геркулесам», дваццацідвухгадовы Мікалай Руды бярэ ўдзел у вайне з Масковіяй пад Старадубам (1534—1535). Адначасова малады князь выконвае фамільныя абавязкі па збіранні і ўпарадкаванні вялікай маёмасці, што перайшла да дому Радзівілаў, ды апякуецца спадчынай аўдавелай роднай сястры Барбары. Палітычныя зацікаўленні стрыечных братоў Радзівілаў (Чорнага і Рудога) у гэты момант накіраваныя на перадачу ўлады вялікага князя літоўскага Жыгімонту Аўгусту. Гэта ім цалкам удаецца на Радзе гаспадарскай у Берасці (1544). Удзячны Жыгімонт не пакідае без увагі старанні сваіх прыхільнікаў і надае Рудому ўрады падчашага і лоўчага літоўскага, у абавязкі якога ўваходзіла сачыць за парадкам у гаспадарскіх пушчах ды падчас каралеўскіх паляванняў. Як дальнабачныя палітыкі браты Радзівілы выкарыстоўвалі ўсе акалічнасці бурлівага жыцця свайго чаму для дасягнення найгалоўнейшай сваёй мэты — умацаваць і абараніць незалежнасць Бацькаўшчыны ад экспансіянісцкіх памкненняў польскай кароны. Пачынаючы з часоў ягайлаўскай уніі (1380 г., Крэва), Вялікае княства Літоўскае штораз болей адчувала на сабе негатыўныя наступствы гэтага нешчаслівага (як давяла пазнейшая гісторыя) саюзу. Але, бадай, самай буйной гістарычнай памылкай Ягайлы было наданне палітычных і грамадзянскіх пераваг жыхарам дзяржавы, якія прымалі каталіцкае веравызнанне (Гарадзельскі прывілей 1413 г.). Як і трэба было чакаць, нераўнапраўнае становішча грамадзян спарадзіла ўнутраную нестабільнасць, а ў будучыні павяло да фатальных міжканфесійных забурэнняў, пагібельных для кожнага грамадства. Апроч таго, польскія палітычныя колы сталі паслядоўна выкарыстоўваць каталіцкі касцёл для паланізацыі Вялікага княства і яго дзяржаўнага паглынання Каралеўствам Польскім. Планы гэтай інкарпарацыі маскіраваліся прапагандай братняга саюзу (уніі) паміж дзвюма дзяржавамі і абяцанкамі вайсковай дапамогі ў змаганні з жорсткім і агрэсіўным усходнім суседам — Масковіяй. Аднак няшчырасць ды ашуканскія намеры польскага боку праяўляліся пастаянна. У адказ патрыятычны кантынент Вялікай Літвы, і перш за ўсё групоўка шляхты і магнатаў на чале з Радзівіламі, пераходзяць да актыўных палітычных захадаў у абарону незалежнасці. Рамантычная лінія кахання паміж Барбарай Радзівіл і Жыгімонтам Аўгустам безумоўна ж уплятаецца ў палітычнае напружанае жыццё паміж двума народамі і дзяржавамі. Палякі і зайздроснікі ўнутры княства, усведамляючы, што магчымы шлюб і караляванне Барбары павядзе да яшчэ большага ўзвышэння незалежнікаў Радзівілаў, усімі сродкамі імкнуліся гэтаму перашкодзіць. Шлюб прадухіліць не ўдалося, нягледзячы на моцны палітычны прэсінг. Барбара Радзівіл становіцца каралевай Рэчы Паспалітай і вялікай княгіняй літоўскай. Ці ж маглі супакоіцца пасля гэтага шматлікія інтрыганы і патаемныя падбухторшчыкі анархічнай шляхецкай апазіцыі супраць Радзівілаў? Гістарычныя хронікі засведчылі, што неўзабаве прыгажуня каралева Барбара памірае ў страшных пакутах з выразнымі сімптомамі моцнага атручання.

Браты мужна прымаюць цяжкі ўдар бязлітасных ворагаў, але працягваюць самаахвярнае служэнне Айчыне.

Знешнепалітычныя абвастрэнні на ўсходніх межах дзяржавы запатрабавалі ад Рудога ўзначаліць войска і рушыць на тэрыторыю Лівоніі (Інфлянтаў). Няспынныя напады маскавітаў на прыбалтыйскія тэрыторыі Куроніі і Лівоніі стварылі вялікую пагрозу таксама незалежнасці і цэласці княства. Войска пад найвышэйшым гетманствам Мікалая Рудога было добра арганізавана і гатова да рашучых дзеянняў. Але дыпламатычная палітыка князя Мікалая Чорнага заключалася ў тым, каб паладзіць з лівонскімі станамі і дамагчыся мірнага далучэння прыбалтыйскіх земляў пад пратэктарат Вялікага княства. Так урэшце і адбылося. А ў верасні 1561 г. Мікалай Руды аблажыў са сваім войскам замак Таўрас, дзе знаходзіліся маскоўскія жаўнеры. Праз пару тыдняў яны капітулявалі. Князь Мікалай Руды велікадушна адпусціў палонных маскавітаў. У 1562 г., калі ён знаходзіўся ў Менску са сваім войскам, да яго дайшлі звесткі, што маскоўскі цар Іван Жахлівы рынуўся на Віцебск і Оршу. У адказ Руды пасылае моцны атрад у глыб Смаленшчыны ды пад Веліж, каб аслабіць націск агрэсара. У 1563 г. пад Менскам Руды атрымаў паведамленне аб раптоўным уварванні велізарнай маскоўскай арміі на тэрыторыю Вялікага княства і захоп Полацка. Не марудзячы, усяго з пяцітысячнай арміяй жаўнераў Руды наблізіўся да Полацка і перакрыў асноўныя тракты, што вялі да Вільні. У маі 1563 г. на Сойме, калі ўзнікла спрэчка, ці варта павялічваць вайсковыя падаткі, ён пераканаў шляхту, што Масковія плануе вялікую вайну і да гэтага трэба сур'ёзным чынам рыхтавацца. А ўжо ў студзені 1564 г. сапраўды пачалася вялікая выправа з боку Полацка і Смаленска дзвюх трыццацітысячных маскоўскіх армій, якія ішлі ў глыб Беларусі, каб злучыцца каля Оршы. Князь Мікалай Руды сумесна з дворным гетманам Рыгорам Хадкевічам распрацаваў план, як не дазволіць варожым калонам злучыцца і прадухіліць іхні магчымы марш на Вільню. Было наладжана няспыннае віжаванне разведчыкаў. Маскавіты прасоўваліся па Віцебшчыне пад пільным назіраннем. 26 студзеня 1564 г., калі заваёўніцкая армія на чале з маскоўскім князем Пятром Шуйскім колькасцю 30 тысяч збройных ваяроў наблізілася да ракі Вула і выйшла на Чашніцкае поле, яе знянацку атакаваў радзівілаўскі корпус, у якім знаходзілася не больш за 4 тысячы жаўнераў. Мікалай Руды біўся поплеч са сваімі ротамі пад белым княжацкім штандарам з чорным арлом. Кароткая, як навальніца, сеча закончылася поўным разгромам агрэсара. Палавіна маскоўскага войска загінула на месцы бою разам з Шуйскім. Астатнія 10—15 тысяч разбегліся па навакольных лясах і дарогах. Калі весткі пра Вульскую бітву дайшлі да другой трыццацітысячнай маскоўскай групоўкі на чале з князем Пятром Сярэбраным-Абаленскім, які ўжо дасягнуў Крапіўны пад Оршай, там узнялася страшэнная паніка. Перапалоханыя чуткамі, што Радзівіл набліжаецца з велізарнай арміяй, маскавіты пачалі ліхаманкавыя ўцёкі ў бок Смаленка. Гэта дазволіла двухтысячнаму коннаму атраду пад загадам Філона Кміты паспяхова пераследаваць заваёўнікаў і захопліваць іх абозы з вайсковай амуніцыяй і нарабаваным у насельніцтва дабром.

Выдатная вайсковая аперацыя Мікалая Радзівіла Рудога стала вядомая па ўсёй Еўропе, прадэманстраваўшы нязломны патрыятычны дух Вялікага княства і яго мужныя ды ўмелых абаронцаў. Палітычны рэзананс Вульскай перамогі дазволіў князю Радзівілу Чорнаму спыніць нераўнапраўныя перамовы з палякамі на варшаўскім сойме. На пяць гадоў аказалася адсунутым падпісанне Люблінскай уніі. На пэўны час таксама была аслаблена пагроза з боку Масковіі, даўшы мірную перадышку народу.

У жніўні 1564 г. князь Мікалай Руды ізноў выводзіць з-пад Менска свае роты (падобна на то, што ваяводскі Менск быў зручнаю вайсковаю базаю вялікага гетмана), спрабуючы пайсці на дапамогу ці нават адбіць захоплены маскавітамі Полацк. Але хутка вызваліць горад не ўдавалася: у распараджэнні гетмана не было дастатковай колькасці штурмавых гармат. Пачалася працяглая блакада.

Пасля смерці брата Мікалая Чорнага ў траўні 1565 г. Радзівілу Рудому на віленскім сойме даюцца ўрады сталічнага ваяводы і вялікага канцлера. Адначасова вялікае гетманства ён перадае Рыгору Хадкевічу. Пазіцыя Рудога ў дачыненні да вялікалітоўска-польскай уніі застаецца непрыхільнай. Ён паслядоўна працягвае палітычную канцэпцыю брата Мікалая Чорнага. Нават тады, калі распрапагандаваная шляхта схіляецца да заключэння уніі, а Жыгімонт Аўгуст пад націскам польскіх палітыкаў забірае ў Вялікага княства велізарныя тэрыторыі Падлясся, Валынь і Кіеўшчыну, Радзівіл Руды рашуча адмаўляецца падпісаць акт Люблінскай уніі. Гэта, аднак, не пахіснула аўтарытэт князя. У дыпламатычным данясенні маскоўскага пасольства цару Івану IV засведчана: «...вся земля литовская положена на виленском воеводе» (1571).

Перажыўшы разнастайныя калізіі бескаралеўя, Радзівіл Руды ў 1576 г. упершыню сустракаецца з новым энергічным каралём венгерцам Стэфанам Баторыем, які адразу ацаніў вайсковыя таленты князя і даручыў яму абарону і арганізацыю войска ў Вялікім княстве.

Між тым, наспявала кульмінацыя ў ваенных дачыненнях з Масквой на тэрыторыі Лівоніі і пад Полацкам. Па загаду караля Радзівіл прымае кіраванне над усімі тэрыторыямі Лівоніі. У палітычных мэтах Руды прапануе стварыць невялікае леннае гаспадарства пад уладай дацкага прынца Адольфа Гальштэйн-Гаторпа. Ён жа прымае падданства раней залежнага ад Масквы інфлянцкага герцага Магнуса. А ягоны паручнік Андрэй Сапега накіроўваецца пад замкавыя муры Вендэна. Там беларускія роты разам са шведамі перамагаюць шматлікае маскоўскае войска. Настае час вызваліць Полацк. Князь Мікалай Руды разам з сынам Хрыстафорам, акрамя кіраўніцтва ўсім войскам, узначальвае яшчэ перадавыя конныя роты. Супольнымі сіламі разам са спрактыкаванымі і адважнымі венгерскімі жаўнерамі на чале з Каспарам Бекешам было зламана супраціўленне маскоўскіх захопнікаў. Полацк быў вызвалены. Абодва сыны Рудога за гераічны ўдзел у штурме атрымалі ад караля сенатарскія званні.

Пасля полацкай кампаніі князь Мікалай Руды адказваў за ваенную бяспеку ўсяго Вялікага княства. Разам з сынамі выпраўляўся на чале арміі (9 тысяч жаўнераў і 20 тысяч рушання паспалітага) пад Вялікія Лукі. Вызваліў ад маскоўцаў замак Усвят, важны ў стратэгічных адносінах, дужа ўмацаваны замак Азярышча, удзельнічаў у пскоўскай кампаніі.

Аднак за вайсковымі справамі князь не забываў пра ўмацаванне дзяржаўнага заканадаўства. У якасці вялікага канцлера ён рупіцца ўсталяваць у Літоўскім статуце дэмакратычныя юрыдычныя нормы пра абарону роўнасці веравызнанняў, суверэнітэт дзяржавы. Гэтаму процідзейнічалі польскія каталіцкія колы. Мала таго, што каронныя палітыкі не падавалі амаль ніякай вайсковай дапамогі для адбіцця маскоўскай агрэсіі, цынічна жадаючы аслаблення літоўскага ваеннага патэнцыялу, дык яшчэ пастаянна імкнулася пасварыць між сабой прыхільнікаў розных палітычных поглядаў. Асабліва размаху польская экспансія дасягнула пасля з'яўлення ў Вільні езуітаў. Цяпер ужо «саюзнікі» займаліся не толькі падбухторваннем зайздрослівых шляхцюкоў да анархіі абяцанкамі «злотых вольнасцей», але пачалі падступна ўмешвацца ў міжканфесійныя, духоўныя дачыненні. Карыстаючыся тым, што вялікі гетман Радзівіл Руды знаходзіўся ў вайсковай выправе, езуіцкія агенты пачалі падрыўную дзейнасць у самой Вільні. Ваяўнічыя члены «Таварыства Езуса», лаяліты нацкоўвалі адны групы насельніцтва на другія, арганізоўвалі натоўп для разбурэння рэфармацкіх бажніц. Ад гэтага часу на нашу Бацькаўшчыну прыйшла самая небяспечная навала. Змаганне каталіцкага свету супраць Рэфармацыі паклала пачатак разбурэнню нашай незалежнасці. Няспынныя рэлігійныя закалоты, справакаваныя езуітамі, будуць цягнуцца стагоддзямі, патокамі пальецца кроў па гарадах і мястэчках Беларусі. Ахвярамі каталіцкага тэрору стануць самыя патрыятычныя станы грамадства — кальвіністы. Рэфарматы на чале з Радзівіламі, сцякаючы крывёй у змаганні з вонкавым агрэсарам, каб не распачынаць грамадзянскай вайны, вымушаны будуць па-хрысціянску адступіць перад нахабствам контррэфармацыі. Аднак апантанасць езуітаў, здаецца, не ведала межаў. Хутка яны ўзяліся пераследаваць таксама грэка-праваслаўную канфесію Вялікага княства Літоўскага. Праваслаўныя іерархі, якія да таго самі не вызначаліся вялікай верацярплівасцю да іншых вызнанняў (на Віцебшчыне, напрыклад, праваслаўная вярхушка чыніла ўціск лютэранам ды іншым пратэстантам, парушаючы іхнія грамадзянскія правы), цяпер на ўласным лёсе спазналі нецярпімасць да іншадумцаў з боку каталікоў.

*Заканчэнне на с. 6.*

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Вучымся!

## УРОК ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ

**ТЭМА: СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЕДАЎ ПА АСНОЎНЫХ РАЗДЗЕЛАХ ПРАГРАМЫ. РАЗВІЦЦЁ МОВЫ ПА ТЭМЕ:**

**«ФРАНЦІШАК СКАРЫНА—ВЫДАТНЫ ВУЧОНЫ, АСВЕТНІК, ГУМАНІСТ»**

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце верш Г. Пашкова, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Партрэт Скарыны ў Падуі

Усім на свеце
ілжэгеніям,
усім себялюбам назло,
сумленне чыё
карэннямі
ў Радзіму
не ўрасло;
усім,
каму сніліся помнікі,
хто праг
у граніце стаяць,
куды паімчацца паломнікі
каменьчыкі падбіраць;
усім,
хто пражыў чужым
потам,
чужою крывёю —
назло, —
чые манументы потым
кляйміла эпоха: «На злом!» —
на нас
з даўніны
старажытнаю
памяткаю
праз вякі
глядзяць
чысцінёю блакітнаю
радзімы васількі—
Ад тых, хто, ўзлятаючы,
падае
няўдачна,
апрачыцца свет.
Партрэт Скарыны ў Падуі,
майго земляка партрэт...

2. Прачытайце верш М. Танка, растлумачце асаблівасці вымаўлення выдзеленых слоў.

### Гравюры Скарыны

**Гравюры** Скарыны!
Ён **выразаў** іх
На **спаканвечным**
Дрэве **гісторы**і
Свайго народа,
Хоць **мог** бы **падабраць**
І больш падатлівы,
І больш удзячны
Матэрыял...
І выразаў ён іх
Не штыхелем-разцом,
А промнем **сонца**.
Промнем сваёй веры
І любві да народа.
Таму штрых кожны
**Быў** такі **глыбокі**,
Што ні **агонь**,
Ні **забыццё**,
Ні **ворагі**,
Ні **час**
Гравюраў **гэтых**
**Знішчыць** не змаглі.
І **сення**
Нейкая **чароўная**
Жыве ў іх сіла,
Якая **сляпым**
Вяртае зрок.
**Глухім** — іх слых,
Няпомняшчым —
іх **памяць**,
А без'языкім — мову.

### *ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА*

1. Адкажыце на пытанні і дайце свае прыклады.

* Калі пішацца **ў**?

* Якія галосныя пішуцца пасля зычных **ж, дж, ш, ч, р, ц**? Як называюцца гэтыя зычныя?

* Якія зычныя могуць вымаўляцца падоўжана і як перадаецца гэтае падоўжанне на пісьме?

* Што вы ведаеце пра правапіс зычных **д** — **[дз]**, т—ц?

*Як абазначаецца мяккасць зычных на пісьме?

* Які з варыянтаў абазначэння мяккасці зычных перадае на пісьме каларыт беларускай мовы (мяккі знак; галосныя **е, ё, і, ю, я**; абазначэнне мяккасці свісцячых **з, с, [дз], ц** наступнымі мяккімі зычнымі)?

* Калі пішацца апостраф і калі раздзяляльны мяккі знак?

* Якія галосныя ў беларускай мове бываюць толькі пад націскам?

* Што адбываецца з галоснымі **о, э**, калі з іх сыходзіць націск?

* Што адбываецца з галоснымі **е, ё** ў першым складзе перад націскам?

* Правапіс якіх прыставак не залежыць ад таго, стаяць яны перад звонкімі ці глухімі зычнымі?

* Як пішуцца прыстаўкі **з-(с-), раз-(рас-), без-(бес-), уз-(ус-), цераз-(церас-)**, праз-?

* Ад чаго залежыць правапіс **ы, й** пасля прыставак?

* Якія вы ведаеце ў беларускай і расійскай мовах аднолькавыя назоўнікі, што маюць розны род?

* Калі зычныя **г, к, х** чаргуюцца з з, ц, с у назоўніках жаночага роду адзіночнага ліку?

* Якія назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку з нулявым канчаткам маюць у родным склоне канчатак **-а**? А якія — канчатак **-у**?

* Як утвараецца вышэйшая і найвышэйшая ступень якасных прыметнікаў?

* Чым адрозніваюцца спалучэнні лічэбнікаў 2, 3, 4 з назоўнікамі ў назоўным склоне ў беларускай і расійскай мовах?

* Як перадаецца напісанне зваротных дзеясловаў цяперашняга часу адзіночнага і множнага ліку ў розных склонах?

* Якія словы пішуцца праз злучок?

2. Прачытайце выказванні пра Францішка Скарыну і растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

*Стваральнік беларускага і* **ўсходнеславянскага** *друкарскага* **пісьменства**, *гуманіст і асветнік, ён сыграў рашаючую ролю ў* **развіцці** *культурнага* **жыцця** *Беларусі* **XVI стагоддзя**. *Ён увасобіў арганічнае адзінства ўсходняй славянскай культуры — неад'емнай часткі культурнай спадчыны Еўропы.*

*З календара ЮНЭСКА.*

**Звярніце ўвагу:**
*ніколі народ мой*
**нікога** *не* **прыгнечваў**.
*У* **цемры** *невуцтва — словам*
*Скарыны*
*просты люд* ачалавечваў.

*З верша*
*А. Грачанікава.*

3. Заданні (на выбар):

а) прачытайце тэксты, да кожнага з іх прыдумайце свой загаловак так, каб атрымаўся план, паводле якога можна зрабіць паведамленне пра Францішка Скарыну;

б) прачытайце тэксты і адзін з іх спішыце. Падкрэсліце і растлумачце вядомыя вам арфаграмы.

#### ВАРЫЯНТ I

Францішак Скарына жыў у эпоху Адраджэння. На думку вучоных, наш славуты зямляк быў роўны з заходнееўрапейскімі дзеячамі таго часу па сваім розуме, энергіі, высокіх помыслах. Ён быў адукаваным чалавекам, свабодна валодаў рознымі мовамі, напрыклад, лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай, польскай, чэшскай ды інш.

#### ВАРЫЯНТ II

Францішак Скарына быў першым чалавекам сярод усходніх славян, які атрымаў дзве вучоныя ступені: доктара філасофскіх навук і доктара медыцыны. Наш славуты зямляк цікавіўся гісторыяй, правам, прыродазнаўчымі навукамі, філалогіяй, жывапісам, музыкай. Кнігу ён разглядаў як асноўную крыніцу разумовага развіцця кожнага чалавека.

#### ВАРЫЯНТ III

Перакладаючы і друкуючы кнігі Бібліі, Скарына імкнуўся пашырыць у народзе адукацыю, пісьменнасць, культуру. Некаторыя пераклады пісаў вершамі. Разглядаючы Біблію як асноўную крыніцу ведаў, ён імкнуўся выхаваць у простых людзей лепшыя маральныя якасці і нормы паводзінаў: абавязак перад бацькамі і грамадствам, павагу да чалавека, праўдзівасць, непрымірымасць да крыўды і прыгнёту.

#### ВАРЫЯНТ IV

Францішак Скарына вучыўся ў Кракаўскім і Падуанскім (Італія) універсітэтах. Прызнаным вучоным прыехаў ён у Прагу і ў 1517 г. распачаў там выдавецкую дзейнасць. За кароткі час ён выдаў у перакладзе на беларускую мову 23 кнігі Бібліі. У 1520 г. наш першадрукар вярнуўся на радзіму і ў Вільні — сталіцы Вялікага княства Літоўскага — заснаваў друкарню. Тут ён выдаў апошнія дзве кнігі Бібліі: «Малую падарожную кніжыцу» і «Апостал».

#### ВАРЫЯНТ V

Імя Францішка Скарыны свяціла нашаму народу надзеяй і верай у самыя цяжкія часіны беларускай гісторыі, бо на працягу стагоддзяў Беларусь трывала нечуваны здзек: быць радзімай усходнеславянскага кнігадрукавання і не мець права выдаваць кнігі на роднай мове. Яе слова заганялі ў рукапіс то польскія паны, то царскае самадзяржаўе. Нашу мову не проста прыгняталі, а забаранялі.

#### ВАРЫЯНТ VI

Цудоўны помнік Францішку Скарыну ўзняўся ў яго родным Полацку. Задуменна-натхнёны стаіць Скарына, нібы вярнуўшыся з далёкіх дарог на Бацькаўшчыну. Пяць стагоддзяў мінула з дня яго нараджэння, а ўдзячныя нашчадкі памятаюць пра навуковы і культурны подзвіг свайго суайчынніка. Імя яго можна ўбачыць у назвах бібліятэк, друкарань, навучальных установ. Скарыну прысвечана шмат навуковых прац і мастацкіх твораў. І не выпадкова, што галоўная вуліца сталіцы аднаўленай краіны — Рэспубліке Беларусь — таксама носіць імя Францішка Скарыны.

4. Выкарыстайце тэкст А. Клышкі для дыктанта.

#### У СЛАВУТАЙ «ЗАЛЕ САРАКА»

У Італіі, у Падуанскім універсітэце — адным з найстарэйшых у Еўропе ёсць славутая «Зала сарака». На покуці стаіць зробленая з тоўстых дошак кафедра. Яна памятае, як некалі тут чытаў свае лекцыі Галілей. Цяпер тут стаіць бюст гэтага геніяльнага вучонага.

Падуанскі універсітэт з гонарам ушаноўвае тых вялікіх людзей, хто тут вучыўся. У «Зале сарака» — сорак вялікіх партрэтаў. Сярод іх, другі ад покуці, каля кафедры Галілея — партрэт Францішка Скарыны.

Так за тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкай Італіі ўшаноўваецца памяць пра нашага першадрукара. Менавіта са Скарынавых рук амаль 500 гадоў таму ўсходнія славяне атрымалі першую друкаваную кнігу.

5. Разгледзьце гравюрны партрэт Францішка Скарыны. Прачытайце тэкст паводле В. Шматава. Складзіце вуснае паведамленне і напішыце пераказ паводле плана:

1) Першы свецкі партрэт у кірыліцкім кнігадрукаванні.

2) Апісанне знешнасці першадрукара.

3) Раскрыццё значэння дзейнасці Скарыны праз дэталі гравюры.

4) Партрэт Скарыны — высокамастацкі твор эпохі Адраджэння.

На партрэце Скарына паказаны як перакладчык.

Ён сядзіць у сваім пакоі перад разгорнутай кнігай, у правай руцэ — пяро. Асветнік працуе і толькі на хвілінку адарваўся ад рукапісу, задумаўся. Апрануты Скарына ў доктарскую тогу. Навокал яго ў рабочым пакоі розныя рэчы: шмат кніг, пясочны гадзіннік, глобус, свечка з адбівальнікам святла. Перакладчык глядзіць у кнігу і стварае рукапіс, рыхтуе Біблію да друку. Яго твар свеціцца дабрынёй, засяроджанасцю. Увесь воблік паказаны з вялікай чалавечай цеплынёй.

Галава Скарыны паказана амаль у фас. Апошняе, безумоўна, звязана з імкненнем мастака паглыбіць псіхалагічную характарыстыку вобраза. У сярэдневяковым мастацтве так малявалі святых, а канкрэтных асоб звычайна паказвалі ў профіль. Ці падобны Скарына на партрэце да самога сябе? Відаць, падобны. Для эстэтычных пошукаў Адраджэння былі характэрны адыход ад канонаў і зацвярджэнне непаўторнага. Без падабенства з асобай партрэт не прызнаваўся.

Сярод адлюстраваных на партрэце дэталей на першым месцы знаходзяцца кнігі на палічках каля акна, на століку. Гэта першая вывява асабістай бібліятэкі ў мастацтве Усходняй Еўропы. Яна сведчыць пра Скарыну як адукаванага чалавека, вучонага.

Справа ад Скарыны, на ўзроўні яго плячэй знаходзіцца пясочны гадзіннік. Такія і цяпер выкарыстоўваюцца ў медыцыне. Разам з тым, гэты атрыбут сімвалізуе час, падкрэслівае напружаную атмасферу, у якой Біблія Скарыны рыхтавалася да друку.

У правым ніжнім кутку вывява пчалы. Нашы продкі з вобразам пчалы звязвалі працавітасць, мудрасць, парадак, красамоўства, ашчаднасць. Шматгранная і сімволіка вады ў гладышах. Вада — аснова і сімвал жыцця, урадлівасці, эквівалент жыццёвых сокаў, яго чысціня.

Вобразы сонца і маладзіка ў цэнтры гравюры яшчэ не высветлены вучонымі. Нельга нічога сказаць і пра знакі, якія трымаюць лапамі львы, пра манаграму МЗ.

*Паводле*
**В. ШМАТАВА.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24—28.*

## У якім часе Полацкае княства дасягнула найбольшае велічы?

Часам найвышэйшага ўздыму Полацкага княства сталася XI стагоддзе, калі на чале дзяржавы быў князь Усяслаў Чарадзей (валадарыў з 1044 да 1101 года). Трывалы падмурак гэтага росквіту быў закладзены ягоным бацькам — Брачыславам, які перадаў у спадчыну сыну моцную дзяржаву, што здолела выстаяць у нялёгкім змаганні з Кіевам. Шмат высілкаў прыклаў Усяслаў, каб уладкаваць сваю Бацькаўшчыну. Імпэту князя дзівіліся сучаснікі і нашчадкі. У сваёй сталіцы — Полацку — ён пабудаваў новы магутны замак, велічны Сафійскі сабор. У часе княжання Усяслава квітнелі рамёствы і гандаль.

Полацкае княства было марской дзяржавай: пад яго кантролем знаходзіліся землі ўздоўж усёй Дзвіны да Варажскага (Балтыйскага) мора. Тут паўсталі гарады Герсіка і Кукенойс (зараз на тэрыторыі Латвіі) — фарпосты Полацка на шляху да Балтыкі. Полацкая дзяржава была адным з вялікіх і магутных гаспадарстваў ранне-сярэднявечнай Еўропы побач з Польскім каралеўствам, Скандынаўскімі і Ноўгарадскім княствамі.

Усяслава як удалага і таленавітага ваяра паважалі і баяліся суседзі. У славутай рыцарскай песні «Слова пра паход Ігараў» пра яго сказана: «Усяслаў-князь людзям чыніў суды, радзіў князям гарады, а сам уначы ваўком рыскаў, з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя, Хорсу вялікаму шлях перацінаў». Нейкі час Усяслаў з волі простых людзей быў нават кіеўскім князем. Але неўзабаве пакінуў гэты пасад, каб вярнуцца ў Полацк.

Народ лічыў Чарадзея за ваўкалака-пярэваратня. Не толькі таму, што той дзіўным чынам мог схавацца ад ворага і нечакана напасці на яго (як, напрыклад, на Нямізе пад Менскам 3 сакавіка 1067 года), але і таму, што прыязна ставіўся да паганства-язычніцтва. Усяслаў будаваў хрысціянскія бажніцы, але не вынішчаў і паганскіх. Князь шукаў згоду ў веравызнаннях, а праз іх — адзінства народа і дзяржавы. Шматлікія ваенныя паходы Чарадзея на Ноўгарад, Пскоў, Смаленск і г. д. займаюць усяго 18 гадоў з яго амаль 72-гадовага жыцця. Ён прысвяціў сябе не разбурэнню, а стварэнню — умацаванню першай беларускай дзяржавы. **Сяргей ТАРАСАЎ.**

## Хто такая Еўфрасіння Полацкая?

Еўфрасіння Полацкая ёсць наша святая, якую здаўна шануюць як нябесную заступніцу Беларускае зямлі. Вечную памяць і любоў народа яна заслужыла сваім ахвярным жыццём, прысвечаным асвеце нашых продкаў.

Яна прыйшла на свет на пачатку XII стагоддзя ў Полацку, у сям'і князя Святаслава-Георгія і даводзілася ўнучкай найславуцейшаму з полацкіх валадароў Усяславу Чарадзею. Дзяўчынку назвалі старажытным полацкім імем Прадслава. Слава пра розум і прыгажосць полацкай князёўны разнеслася далёка па славянскіх землях. Калі Прадславе споўнілася дванаццаць гадоў (у такім вяку дзяўчынка ўжо лічылася тады нявестаю), у Полацк зачасцілі сваты. Бацькі меркавалі выдаць князёўну замуж за сына нейкага слаўнага сваім багаццем і княжаннем уладара. Аднак Прадслава абрала сабе іншы шлях: вырашыўшы стаць Хрыстовай нявестаю, яна прыйшла ў манастыр і прыняла пострыг пад імем Еўфрасінні.

Спачатку маладая манашка пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Тут яна перапісвала і перакладала з іншых моваў кнігі і, як лічаць некаторыя гісторыкі, вяла Полацкі летапіс. Праз колькі гадоў духоўнага ўдасканалення яна заснавала ў Полацку жаночы, а затым і мужчынскі манастыры. Пры іх Еўфрасіння адчыніла скрыпторыі — майстэрні па перапісванні кніг, а таксама школы, у якіх дзеці аваладвалі граматай, вучылі гісторыю, грэцкую і лацінскую мовы, спасцігалі навуку красамоўства. Асветніца збірала вакол сябе таленавітых людзей, і таму яе можна назваць нашай першай мецэнаткаю. На яе заказ полацкі дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, а ювелір Лазар Богша стварыў крыж — бясцэнную святыню беларусаў.

Унучка Усяслава Чарадзея ўздымала свой голас супроць княжацкіх усобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці Бацькаўшчыну да гібелі. Прыклад асветніцы натхняў яе землякоў і наступнікаў Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Сымона Полацкага...

Мошчы святой Еўфрасінні спачываюць у Спасаўскай царкве полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі святкуецца 23 траўня (5 чэрвеня паводле новага стылю).

**Уладзімір АРЛОЎ.**

*Працяг будзе.*

# Арол наш чорны, княжа Радзівіл...

*Заканчэнне. Пачатак на с. 4.*

Канфесійны фанатызм усё больш засляпляў вочы. Праваслаўныя лідэры паступова губляюць патрыятычную арыентацыю. Пад уціскам езуітаў яны кідаюцца па дапамогу да маскавітаў і ўрэшце спрыяюць прыходу на нашу Бацькаўшчыну расійскіх акупантаў.

Але нават у самыя цяжкія часы князь Радзівіл Руды заставаўся паслядоўным абаронцам рэлігійнай талеранцыі ў дзяржаве, як, дарэчы, і цэлая плеяда ягоных аднадумцаў і паплечнікаў. Імёны Мікалая Чорнага, Астафея Валовіча, Яна Глябовіча, Хрыстафора Зяновіча, Хрыстафора Дарагастайскага, іхняга праваслаўнага брата Канстанціна Астрожскага і многіх іншых мудрых мужоў будуць зззяць вечным святлом на крыжовай дарозе нашай свабоды.

Дзякуючы фундацыі князя Мікалая Рудога, былі збудаваны рэфармацкія зборы ў Беліцы, Біржах, Дубінках, Койданаве, Ашмянах ды іншых месцах.

Дзяржаўная дбайнасць Мікалая Рудога пра хрысціянскае асветніцтва свайго народа была супольнай справай усіх рэфарматаў. Пасвячэнне ў Нясвіжскім катэхізісе (1562 г.) з патрыятычнымі разважаннямі пра родную мову было прама адрасавана сыну Рудога Мікалаю. Дарэчы сказаць, у эпісталярным зборы часоў Лівонскай вайны знаходзім, што ўсе пасланні караля Стэфана Баторыя да Радзівіла Рудога з Кракава пісаліся выключна на беларускай мове. Мікалай Радзівіл Руды быў перакананым праціўнікам дзяржаўнага і канфесійнага таталітарызму. Цвёрда адстойваў на соймах і перад каралём праўныя прынцыпы для вырашэння ўсіх грамадскіх пытанняў. Дзякуючы гуманістычнаму характару дзяржаўнай дзейнасці Радзівілаў і іх падтрымцы, разгарнулася выдатная літаратурная дзейнасць публіцыста і тэолага Рэфармацыі ў Вялікім княстве Андрэя Валана. Князю Мікалаю Рудому былі прысвечаны многія творы гэтага дзеяча. Увогуле князь карыстаўся вялікімі сімпатыямі ў грамадстве за сваю справядлівасць, шчыры патрыятызм і вайсковую адвагу. Радзівіла Рудога ўслаўлялі лютэранін Эразм Глічнер, каталік Пётр Ройзій. Гісторык і каталік па веравызнанні Мацей Стрыйкоўскі прысвяціў Рудому шмат старонак у сваёй шырокавядомай «Хроніцы...» (Каралевец, 1582). Віленскі літаратар, паэт-лацініст Ян Радван у памяць пра Мікалая Рудога напісаў паэму.

Стваральная эканамічная і асветніцкая дзейнасць Мікалая Рудога шырока разгарнулася ў Менскім ваяводстве, але асабліва ў Койданаўскім латыфундыяльным валоданні. На Гаштальдавай гары ад паловы XVI стагоддзя да савецкага часу знаходзіўся выдатны цэнтр беларускай духоўнасці і культуры — Рэфармацкі замак. Комплекс збудаванняў уключаў рэфармацкі збор, шпіталь, друкарню, пратэстанцкую школу. Сёння на тым месцы ў выніку савецкага дзяржаўнага вандалізму не засталося нічога. Толькі наша памяць... Няхай жа яна разбудзіць жывыя душы...

Менск, 1993 г.

*Культура мовы*

# Чысціня адзення

*Працяг. Пачатак у № 28.*

ЗАЙМАЦЬ. Дзеяслоў *займаць* у беларускай мове мае многа значэнняў, але вось такога, як у наступным сказе, няма: *Што ж да рамантыкі... яе, бязмежнае, і нам не ЗАЙМАЦЬ.* Па-беларуску тут трэба было б сказаць *не пазычаць.*

*ЗАКУПАЦЬ: Ён ЗАКУПАЎ зброю; Агромністымі партыямі ЗАКУПАЛАСЯ зброя.* Гэта што, купаючы, утапіць? Ды не, гэта такую форму дадумваюцца зрабіць з дзеяслова *купляць.*

ЛУЖАЙКА: *алені, якія абскубаюць лужайку насупраць будынка мэрыі.* Расійскаму слову *лужайка* ў беларускай мове адпавядаюць два, у залежнасці ад характару грунта: *поплаў* і *лужок.*

ЛЯСЫ. Дык ці можа адзін дом стаяць у некалькіх лясах? Прыглядзімся: *У ЛЯСАХ і адзін з дамоў Полацка.* А трэба было б сказаць *у рыштаваннях.*

НАСТАЯЦЬ: *Дэпутаты настаялі на тым, каб у парадак дня была ўнесена справаздача.* Яшчэ ў 30-я гады Кузьма Чорны даводзіў, што ўжыванне слова *настаяць* для беларускай мовы неўласціва. Сапраўды, па-беларуску лепш у адзначаным кантэксце ўжыць слова *дамагчыся.*

ПАДЗЯЛЯЦЬ. Асноўнае значэнне гэтага дзеяслова 'дзяліць на часткі': *шукаць выйсце, якое не падзяляе, а яднае грамадства.* У спалучэнні з назоўнікамі *лёс, доля,* а таксама тымі, што абазначаюць псіхічны стан чалавека (*радасць, гора, цяжкасць*), гэты дзеяслоў паказвае, што суб'екту ці аб'екту выказвання належыць яго доля-частка ці ён з'яўляецца саўдзельнікам перажывання: *Прыбітая горам і адзінотай кабета, якая падзяліла лёс многіх жыхароў Хатыні.* У расійскай мове дзеяслоў *разделять* ужываецца і ў спалучэнні з назоўнікамі, якія абазначаюць разумовы працэс (*думка, меркаванне, погляд* і г. д.). Але ў гэтых спалучэннях адсутнічае семантыка частковасці, што закладзена ў дзеяслове *дзяліць.* У іх справа ідзе пра непадзельную падтрымку думкі, меркавання. Скалькаванае ў беларускай мове гэтае словазлучэнне — *падзяляць + думка (выказванне)* шырока найшло ў пісьмовую практыку. Напрыклад: *меркаванне, якое потым падзеляць самыя розныя аўтары; рэдакцыя падзяляе асноўны пафас артыкула; я падзяляю многія думкі, выказаныя ў выступленнях.* А справа тут ідзе не пра *падзел,* а пра *падтрымку!* Дык лепш было б па-беларуску і сказаць: *згаджаюся, падтрымваю.*

ПАКЛАДАЦЬ. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае толькі адно значэнне гэтага дзеяслова: 'кастрыраваць, лягчаць' (жывёл). А ці можна пакладаць чалавечыя рукі? Той жа слоўнік (т. 3, с. 615) раіць забыцца, што абазначае дзеяслоў *пакладаць* у беларускай мове, што ён падаў звароты *скласці рукі, склаўшы рукі* (=перастаць дзейнічаць) і рэкамендуе расійскі зварот *не покладая рук* перадаваць па-беларуску *не пакладаючы рук.* Таму і ў прэсе сустракаем: *трэба ўсім згуртоўвацца... і не пакладаючы рук працаваць.*

ПІСЬМО — ЛІСТ. У сучаснай нашай моўнай практыцы з аднолькавым значэннем, як дублет, ужываюцца абодва гэтыя словы. І такое іх суіснаванне санкцыянавана слоўнікамі. Але ўжыванне ў мове поўных сінонімаў (дублетаў) — з'ява збыткоўная, асабліва, калі справа даходзіць да тэрміналогіі. *раман у пісьмах* ці *ў лістах?*

Каб даваць рэкамендацыі наконт мэтазгоднасці аддаць перавагу аднаму з гэтых сінонімаў, варта, на маю думку, браць пад увагу два моманты. Першы. Імкнуцца, каб не было аманімічнасці. Ліст на дрэве, ліст паперы, ліст жалеза — гэта сапраўды лісты. А калі б мы напісалі *мой ліст да цябе не змясціўся на адным лісце,* то было б нядобра. Тут само сабой просіцца слова *пісьмо* (маё пісьмо). Такое ўжыванне слова *пісьмо* ў беларускай мове мае глыбокую традыцыю і падмацоўваецца існаваннем вялікага гнязда аднакарэнных слоў: *пісаць, пісьменнасць, пісьменнік, пісьмовы, пісьмоўнік, пісямцо* і г. д. Аналагічныя ім аднакарэнныя ад *ліст* у нашай мове не ўтварыліся, няма ж *лістаць ліст, лісцяцо.* Перавага ўсё-такі за *пісьмом.* Гэтае слова ўжываў і пачынальнік нармалізацыі нашай літаратурнай мовы: *Падганіце Купалу, каб ён хутчэй атпісаў на маё пісьмо!* (з пісьма Б. Тарашкевіча да Зоські Верас).

Другі. Нельга таксама адхіліць і традыцыю ўжывання слова *ліст* у беларускай мове. Яна па сваіх вытоках хоць і, верагодна, не беларуская, але мае глыбокія карані ў нашай старой пісьменнасці. Так, у Скарыны чытаем: *написал давыдъ листъ ко іовови* (Другая кніга царстваў, с. 85). Шырокае ўжыванне слова *ліст* мела як тэрмін. Яно абазначала афіцыйны дакумент: *подводъ не давать хоть бы з нашими листы хто бег* (Полоцкие грамоты, т. I, 1485 г., с. 190); *тые листы наши слово от слова были выписаны* (Статут ВКЛ 1529 г., с. 1). На базе агульнага значэння 'афіцыйны дакумент, у старабеларускай мове развілася вялікая колькасць, аж некалькі дзесяткаў, канкрэтных тэрмінаў, якія перадаваліся словазлучэннямі *ліст* + прыметнік: *л. вечистый, л. вольный, л. железный, л. заставный, л. защитный, л. комисийный, л. отвороный, л. позовный* і інш.

Зыходзячы з гэтай глыбокай традыцыі, варта было б і ў сучаснай моўнай практыцы праводзіць размежаванне: словам *пісьмо* абазначаць сродак сувязі (*у рэдакцыю прыйшлі пісьмы ад чытачоў*), а словам *ліст* — афіцыйны дакумент, пераважна ў словазлучэннях (*бальнічны л., выканаўчы л., дарчы л., маршрутны л., падпісны л.* і г. д.). У словазлучэнні *гарантыйнае пісьмо* таксама варта памяняць кампанент — *гарантыйны ліст.* У гэтым ключы варта весці распрацоўку перш за ўсё новых тэрмінаў. Напрыклад, замест чыстай калькі *вярыцельная грамата* лепш было б ужыць зварот *даверчы ліст.* Ён цалкам у згодзе з духам беларускай мовы.

**І. КРАМКО.**

*Працяг будзе.*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012






*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Самым буйным паэтам і празаікам нямецкамоўнай часткі Швейцарыі ў XIX стагоддзі быў, бясспрэчна, Готфрыд Келер (1819—1890).

*Готфрыд КЕЛЕР*

## Зімовай ноччу

Лопат крылаў сціх на ўсёй зямлі,
Снег сляпіў паўсюль, як вокам кінь.
Хмаркі зорак засціць не маглі,
Хвалі ў возеры скавала стынь.

Дрэва ў ім з глыбі расло, але
Потым ствол умёрз у лёд і сшэрх;
І русалка, ўзлезшы па ствале,
Праз зялёны лёд зірнула ўверх.

Я стаяў на абалонцы той:
Бездань зеўрала ў нагах. Як ёсць,
Я разглядзеў проста пад сабой
Белай той русалкі прыгажосць.

Мацала няўмольна-цвёрды дах
Роспачна яна — і ўжо нідзе
Не ўцячы мне ад вачэй тых. Ах,
З галавы красуня не ідзе!

## Маёй радзіме

О Радзіма, Бацькаўшчына мая!
Як жа горача Цябе люблю!
Цешыш Ты адна — з руж, што бачыў я,—
Гэтую пустэльную зямлю.

Як хадзіў я з посахам па чужыне,
Мераў бляск карон Табой няўзнак:
Мішурой пустой ён падаўся мне —
Як табой тады ганарыўся жабрак!

Ахапляў адчай мяне, зноў і зноў —
О Гельвецыя! — як я далёка быў,
Але ў радасць ён перайшоў наўздзіў,
Як я ўбачыў аднога з Тваіх сыноў!

О Швейцарыя, Ты — ўвесь набытак мой!
Як апошні дзень мой падступіць зусім—

Хай Табе памагчы я не змог ні ў чым —
Дай прытулак і вечны мне спакой...

Пыльны строй свой скінуўшы, пастаю
І вымольваць у Госпада буду лёс —
Каб найлепшая зорка зазззяла з нябёс
На зямную Бацькаўшчыну маю.

*Пераклад з нямецкай*
*Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

*Рупліўцы*

# «Я ТЛЕЦЬ НЕ ХАЧУ, ХАЧУ ЯРКА ГАРЭЦЬ...»

Вёсачка Баравікоўшчына на Валожыншчыне — найпрыгажэйшы куточак для Генадзя Антонавіча Равінскага, гэта яго Радзіма. Найцудоўнейшая прырода выпесціла ў ім паэта, хуткая сцюдзёная плынь Іслачы надала яму жыццёвую моц. Родная маці, узгадаваўшы, нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці, выправіла адсюль свайго сына ў свет носьбітам дабра і справядлівасці.

Тут я сказаў
Першы раз слова «мама»,
Тут малышом
Слухаў першы ўрок,
Тут выбіраў
Свой жыццёвы напрамак,
Тут жа зрабіў
Свой настаўніцкі крок.

Так лірычна прызнаўся ў адным са сваіх вершаў Генадзь Равінскі. Яшчэ зусім нядаўна з яго высакароднай беларускай гаворкі кпілі звычайныя абываці — настаўнікі і дырэктары школ, чыноўнікі розных рангаў. Але ён застаецца верным матчынай мове, хоць добра валодае яшчэ расійскай і польскай. Зараз нядобразычліўцы суцішыліся, назіраючы, як дзяржаўная мова набірае моц, нераадольваючы перашкоды, што ставіць ёй антыбеларуская рэакцыя.

Не, ён не быў Дон-Кіхотам, калі ў застойныя часы паўстаў на абарону цэнтра Івянца ад узвядзення пачварыкоміна і будаўніцтва гальванічнай вытворчасці на тэрыторыі старадаўняга кляштара францысканцаў, дзе зараз пад скляпеннямі касцёла св. Міхала чуваць узнёслыя малітвы вернікаў.

Праўда, ён ведаў, на што ішоў, калі парушаў супакой партнаменклатуры, выступаючы ў абарону ліпы Дуніна-Марцінкевіча ў Малой Люцінцы, у абарону запаведнай Налібоцкай пушчы і ратуючы панскі парк у Маскалёўшчыне. Хоць яго школку ў Шыкуцях і не закрылі, самога не звольнілі з пасады дырэктара, але ўлады трывала лічылі Генадзя Антонавіча чалавекам «не нашым».

Ён ахвяраваў сваім здароўем, калі плённа працаваў у архівах дзеля пазнання ісціны і застаўся на зіму без паліва ў сваім пакойчыку-бярлогу, які абаграваў толькі сваім дыханнем. Каб пацвердзіць высновы навукоўцаў з Геаграфічнага таварыства аб сапраўдных вытоках рэчкі Іслачы, ён не адно лета начаваў у стагах, харчуючыся толькі дарамі лесу.

А хіба абышлася хоць адна значная падзея ў культурным жыцці Валожыншчыны без чыннага ўдзелу Генадзя Антонавіча? Дунін-Марцінкевіч, Канстанцыя Буйла, Фердынанд Рушчыц, Стары Улас, Міхал Грушвіцкі, генерал Кавэрскі, адвакат Плявака, Аляксандр Бястужаў-Марлінскі — вось імёны, да высвятлення дэталяў з біяграфіяў якіх ён мае непасрэднае дачыненне.

Сімвалічна, што нарадзіўся Генадзь Равінскі 15 ліпеня 1933 года — у дзень, калі роўна 513 гадоў таму пад Грунвальдам нашы мужныя продкі святкавалі перамогу над крыжакамі.

Дзяцінства Генадзя прайшло ў галечы. Была толькі адна радасць — вучоба ў Сівіцкай школе. Вайсковую службу праходзіў на Далёкім Усходзе. Пасля заканчэння Гомельскага педвучылішча працягваў завочна вучыцца на філалагічным факультэце БДУ, адначасова ён працаваў на будоўлях Менска. Затым настаўнічаў у Пральніках, Паднявічах, Пакуцях. Жыве зараз у вёсцы Старынкі, адкуль кожны дзень ужо дваццаць шэсць гадоў пешшу ходзіць у вёску Шыкуці, дзе працуе дырэктарам няпоўнай сярэдняй школы. Не адно пакаленне выпускнікоў памятаюць галоўны запавет свайго Настаўніка:

Помні заўсёды ў жыцці на скрыжаванні дарог
Вёсачку Шыкуці і родны бацькоўскі парог.

Дэпутат Івянецкага сельскага Савета, сябра краязнаўчай камісіі Беларускага фонда культуры, грамадскі інспектар па ахове помнікаў гісторыі і культуры, намеснік старшыні Івянецкай рэгіянальнай рады ТБМ, дэлегат з'ездаў ТБМ Генадзь Антонавіч Равінскі сустракае свой юбілей з аптымістычным настроем. Не зважаючы на хворае сэрца, ён напружана працуе над гісторыяй Белага касцёла «Каменная кветка Івянца», піша нарыс «Гісторыя вёскі Старынкі», збірае звесткі пра аднаго з апошніх генералаў Рэчы Паспалітай — генерала-паручніка Юрыцкага. Яго можна сустрэць на дэмакратычных мітынгах у Менску, у сталічных архівах, бібліятэках.

Шаноўны Генадзь Антонавіч, плёну табе ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь!

**Алег РАМАНОЎСКІ,**
**старшыня Валожынскай раённай рады БНФ.**

м. Івянец.

**КАРОТКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ**

**Мікалай БАЙКОЎ** (псеўданім Крывіч Мікола; 1889, г. Бежацк Цвярской губерні — 1941) у 1913 г. скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію і быў накіраваны ў Менскую духоўную семінарыю выкладчыкам філасофскіх і педагагічных дысцыплін. У 1918 годзе быў абраны выкладчыкам Менскага настаўніцкага інстытута, пераўтворанага праз год у Педагагічны, а пасля — у Інстытут народнай асветы, дзе чытаў курсы педагогікі, псіхалогіі, логікі і гісторыі філасофіі. Выкладчыцкую дзейнасць спалучаў з даследчай на пасадзе сакратара Тэрміналагічнай камісіі, а потым — Слоўнікавай камісіі. Ён кіраваў збіраннем лексічных матэрыялаў для слоўніка жывой беларускай мовы, калектыўная праца над якім вялася з 1925 года. Паводле некаторых звестак у картатэцы гэтага слоўніка налічвалася каля чатырох мільёнаў слоў. Але з-за арышту збіральнікаў і самога М. Байкова ў 1930 годзе гэтая праца засталася незавершанай, а лёс сабраных скарбаў беларускай мовы невядомы.

**Паводле І. К. Германовіча.**

# «БОЖА, ПРОСІМ, ТЫ НАС БЛАГАСЛАВІ!..»

У 1991 годзе ў Менску з ініцыятывы Бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў пачала працаваць нядзельная дзіцячая школа пры Грэка-каталіцкай (уніяцкай) парафіі. Яна стала адзінай на той час царкоўнай школай у горадзе, а можа і ў краіне, дзе выкладанне вядзецца выключна па-беларуску. У першы год была толькі адна група, а ў другі — дзве. Дзеці з малодшай групы разам з прафесійнай настаўніцай Святланай Сымонаўнай чыталі ў адаптаваным пераказе Біблію, а са старэйшымі дыякан Андрусь Абламейка вывучаў катэхізм. Пасля заняткаў усе нашы вучні і іх бацькі збіраліся вакол спадарыні Марыі Скуратовіч, каб развучыць цудоўныя дзіцячыя спевы. Надзвычай цікава было назіраць, з якім захапленнем яны спявалі «Божа, просім, Ты нас блаславі!..» — вельмі прыгожую і простую песню, што стала своеасаблівай візітоўкай нашай школы.

Многія вучні з бацькамі і выкладчыкамі ахвотна прыходзілі на ўрачыстую літургію і хутка ўжо маглі спяваць разам з хорам. Так з'явілася па нядзелях дадатковая літургія для дзяцей. На Каляды парафіяне падрыхтавалі для дзяцей невялікую містэрыю на евангельскую тэму і парадавалі іх рознымі прысмакамі, а святары падаравалі кнігі: дзіцячую Біблію і біблейскія апавяданні «Бог гаворыць да сваіх дзетак».

Адной з задач дзейнасці школы было падрыхтаваць дзяцей да першай споведзі і прычасця. Вернікі ведаюць, які гэта адказны момант у жыцці маленькіх хрысціян, таму Царква заўсёды імкнецца праводзіць такія акты вельмі ўрачыста. І тут шчырая падзяка Бацькоўскаму камітэту, фонду духоўнага і нацыянальнага адраджэння «Сакавік» і беларускай фірме «Дайнова», з дапамогай якіх была наладжана цудоўная паездка ў Вільню, дзе старэйшыя вучні адбылі споведзь і многія з іх у першы раз прычасціліся Святых Дароў.

Чаму была абрана менавіта Вільня? — На жаль, Грэка-каталіцкай (уніяцкай) царкве на Беларусі да гэтага часу не вернута ніводнага яе храма. У Вільні ж улады ў 1991 годзе перадалі ўкраінскім манахам-базыльянам царкву Святой Тройцы, дзе з ласкі яе гаспадароў і адбываліся ўсе ўрачыстасці. Гэтая царква вельмі дарагая беларускім грэка-каталікам, бо яна пабудавана на месцы забойства Антонія, Яўстафія і Іаана — трох віленскіх мучанікаў. У гэтым жа храме звыш 20 гадоў маліўся і гаварыў свае палымяныя ка́зані святы Язафат, паслухаць якога збіраўся ўвесь горад. Менавіта за гэтыя ка́зані на старабеларускай мове непрыяцелі празвалі яго «душахватам», бо многіх мог пераканаць у сваёй праваце.

Упершыню пасля доўгіх дзесяцігоддзяў гучалі ў старажытных мурах велічныя словы беларускай літургіі і набожных песень. Слухалі іх і дзеці, якія прыбеглі з украінскай гімназіі, што стаіць побач з царквой. А пасля набажэнства кожны з нас мог памаліцца перад цудатворным абразом Маці Божай Вастрабрамскай, агледзець віленскія храмы і ўзняцца на вежу Гедыміна. Апекаваўся намі ў Вільні карэспандэнт гарадзенскай «Пагоні» Сяржук Вітушка, за што яму наша падзяка.

Нядзельная школа ў Менску будзе працаваць і ў гэтым навучальным годзе. Запрашаем дзяцей ва ўзросце 7—12 гадоў, якія змогуць кожную нядзелю прыходзіць на заняткі. Нам можна пісаць: 220137, Менск, п/с 63.

**І. ІВАНОЎ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# *Адраджэнне традыцый*





◆◆◆

У Беларускім цэнтры гульні і цацкі добра ведаюць, што самыя перадавыя, найбольш эфектыўныя педагагічныя методыкі грунтуюцца на гульнях. Таму адраджэнне старадаўніх і традыцыйных, але забытых беларускіх гульняў — важны накірунак выхаваўчай работы дзіцячых устаноў рэспублікі. Тут дапамога Цэнтра гульні і цацкі асабліва неабходна.

Супрацоўнікі Цэнтра распрацавалі праект батлейкі, а малое прадпрыемства «Румб» згадзілася вырабляць гэтыя міні-тэатры. Лялькі для спектакляў батлейкі ствараюць цудоўныя майстры — Марына і Андрэй Сярэбранікавы. Ужо сёння многія школы і дзіцячыя садкі Меншчыны, Магілёўшчыны, Брэстчыны набылі батлейкі.

НА ЗДЫМКАХ. Спектакль батлейкі прадстаўляе дырэктар Беларускага цэнтра гульні і цацкі А. Лозка.

**Фота У. ПАНАДЫ.**

Марына Сярэбранікава і яе лялькі.

Фота Я. КАЗЮЛІ. БЕЛІНФАРМ.

◆◆◆

## Народная лякарня

Пры хранічным болю галавы перш за ўсё трэба праверыць вочы, страўнік, печань, ныркі і лобныя пазухі. Існуе некалькі тыпаў хранічнага галаўнога болю. Адны з іх звязаны з хранічнымі захворваннямі, такімі, напрыклад, як хвароба нырак. Іншыя вядомы як псіхагенны галаўны боль, што правакуецца страхам, хваляваннем, нянавісцю, іншымі адмоўнымі эмоцыямі. Самы невыносны з іх — мігрэнь. Хвароба гэта спадчынная, і звычайна ад яе пакутуюць людзі пэўнага фізічнага тыпу.

У мігрэні спецыфічныя сімптомы. Яшчэ да таго, як пачынае балець галава, у чалавека перад вачыма ўзнікаюць плямы або ўспышкі святла. Баліць адна палова галавы (слова «мігрэнь» азначае «палова галавы»). Часта пры гэтым назіраецца моташнасць, ваніты і іншыя расстройствы стрававання. З узростам прыступы мігрэні становяцца больш рэдкімі, а пасля 60 гадоў хвароба зусім праходзіць.

Паколькі пры мігрэні парушаецца баланс арганізма, то важна вызначыць, перш за ўсё, пры якой рэакцыі мачы яна настае. Калі рэакцыя мяняецца да кіслай, мігрэнь бывае радзей і не ў такой вострай форме. Відаць, неабходна спярша выявіць фактары, якія выклікаюць шчолачную рэакцыю мачы, а затым знайсці спосаб іх рэгулявання і ўстаранення.

Перш за ўсё трэба павялічыць штодзённае ўжыванне кіслаты, скарыстоўваючы дзеля гэтага яблычны воцат.

Прадухіляе мігрэнь і мёд, які хутка засвойваецца арганізмам. Ужываюць яго пры мігрэні за кожнай ядой па 2 чайныя лыжачкі. Нават калі галава перастане балець, з'ешце адразу 1 сталовую лыжку мёду. Мігрэнь слабее праз паўгадзіны пасля яго прыёму. Калі боль галавы не сціхае, з'ешце яшчэ адну сталовую лыжку мёду. Прымаць мёд патрэбна і ў выпадку звычайнага болю галавы. Трэба памятаць, што мёд добры заспакаяльны сродак і замяняе аптэчныя лекі.

Народная медыцына лічыць эфектыўным яшчэ адзін са спосабаў ужывання яблычнага воцату пры лячэнні мігрэні. Гэта — прыпаркі (паравыя ванны). Пастаўце на агонь міску з роўнай колькасцю воцату і вады. Дайце вадзе паволі закіпець. Калі з яе паверхні падымаецца моцная пара, нахіліце над міскай галаву і патрымайце яе над гэтай парай, удыхніце пару 75 разоў. Пасля гэтай працэдуры галаўны боль спыняецца.

## На помнік Міхасю ТКАЧОВУ

Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка Міхасю Ткачову. Міхась Ткачоў — першы старшыня БСДГ, вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар, быў галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». Памёр у 1992 годзе.

На сённяшні дзень сродкі пералічылі:

**Каралёва Д. С.** (г. Мсціслаў) — 10 000 рублёў;
**Прыхільнік БСДГ** — 20 000 рублёў;
**Міраслаў Целушэцкі** (г. Беласток) — 46 000 рублёў;
**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі** — 100 000 рублёў;
**Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя»**— 30 000 рублёў;
**Праўленне Белкаапсаюза** — 100 000 рублёў;
**Цітовы** (в. Шыркі, Мсціслаўскага раёна) — 5 000 рублёў;
**Казлоўскія** (г. Мсціслаў) — 2 000 рублёў;
**Вячаслаў Болбат** (г. Баранавічы) — 10 000 рублёў;
**Беларускі фонд культуры** — 30 000 рублёў;
**ГІФ «Белая Русь»** — 25 000 рублёў;
**АТ «Кросны»** — 50 000 рублёў;
**Выдавецтва «Полымя»** 100 000 рублёў;
**Управа Сойму БНФ «Адраджэньне»** — 50 000 рублёў;
**МП «Залессе»** — 25 000 рублёў;
**Выканкам Смаргонскага райсавета** — 150 000 рублёў;
**Бараўлянская суполка БСДГ** — 3 200 рублёў;
**Смаргонская філія БСДГ** — 2 500 рублёў;
**Дзяржынская суполка БСДГ** — 500 рублёў;
**Жодзінская філія БСДГ** — 5 100 рублёў;
**Янка Запруднік** (ЗША) — 20 долараў;
**Мастоўская суполка БСДГ** — 3 000 рублёў;
**Баранавіцкая філія БСДГ** — 6 800 рублёў;
**Гарадоцкая філія БСДГ** — 2 800 рублёў;
**Наваполацкая філія БСДГ** — 1 440 рублёў;
**Вештард І. З.** — 2 000 рублёў;

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:**

**Пырх І. І., Цялежнікаў У. І., Крыжаноўскі М. К., Аксаміт М. У., Заблоцкі У. М., Малашка В. А., Цумараў Я. А., Зданевіч Л. І., Навумчык С. І., Баршчэўскі Л. П., Шут А. А., Дзейка Л. І., Вярцінскі А. І., Слабчанка С. І., Голубеў В. Ф., Маркевіч М. М., Холад П. І., Козік Л. П., Папоў Ю. М., Міцько П. П., Новікаў Я. В., Какоўка В. Ф., Паўлаў В. В., Сасноў А. В., Глушкевіч Я. М., Вячэрскі Р. А., Даўлюд А. У., Спіглазаў А. Ф., Цесавец М. М.— 30 900 рублёў;**

**Новік У. У., Грушавы Г. У., Беленькі Ю. А., Ганчар В. І., Грыбанаў В. М., Слямнёў М. А., Давідовіч С. Ф., Гюнтэр Б. Д., Пазьняк З. С., Марыніч М. А., Герасіменка А. М., Лавіцкі Г. М., Радкевіч Л. І., Янец А., Арцыменя Д. К., Звераў Л. А.— 30 500 рублёў;**

**Канапля Я. Ф., Трусаў А. А., Сярэдзіч І. П., Шушкевіч С. С., Алампіеў В. П.— 15 000 рублёў;**

**Карпенка Г. Д.**— 5000 рублёў;
**Каратчэня У. М.** — 10 000 рублёў;
**Гілевіч Н. С.**— 10 000 рублёў;
**Катушкін П. М.**— 10 000 рублёў.

Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Менск, вул. А. Кашавога, 9, Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, ЦР БСДГ, на помнік М. Ткачову.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**21 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.00. НІКа.
23.15. Студыя «Формула».

**22 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР**

10.10. «На шляху да незалежнасці». Перадача 3-я.
10.35. «Чужая бацькаўшчына». Мастацкі фільм.
12.30. Роднае слова. Тэлечасопіс.
13.00. Да Дня незалежнасці. «Край». Саламея Русецкая, лекарка з Навагрудка.
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 1-я і 2-я серыі.
16.40. Для школьнікаў. Літаратурныя сустрэчы. Часопіс «Першацвет».
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
22.10. НІКа.

**23 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА**

10.00. «На шляху да незалежнасці». Перадача 4-я.
13.00. Да Дня незалежнасці. «Край». Казімір Семяновіч і яго ракеты.
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 3-я і 4-я серыі.
16.40. Вясёлыя «Званочкі». Выступае дзіцячы ансамбль г. Менска.
21.00. Панарама.

**24 ЛІПЕНЯ, СУБОТА**

12.15. «На шляху да незалежнасці». Перадача 5-я.
13.40. «Людзі на балоце. Палеская хроніка». 5-я серыя.
16.30. Да Дня незалежнасці. «Край». Гродна.
17.00. Урачыстае пасяджэнне і канцэрт, прысвечаны Дню незалежнасці. Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі.
21.00. Панарама.
22.00. НІКа.

**25 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

10.00. Паказвае Віцебск. Інфармацыйна-публіцыстычная праграма.
20.00. Панарама.
20.40. Калыханка.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 280.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7064 паасобнікі. Падпісана ў друк 19.07.1993 г. у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012